# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне

Леанід Лаўрэш

# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук С. В. Марозавай

Полацк
Грэка-каталіцкая парафія
Святамучаніка Язафата ў г. Полацку
2012

УДК 293
ББК 86.37
Л28

**Лаўрэш, Л.**

Л28 Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне / Леанід Лаўрэш ; пад рэд. С. В. Марозавай. — Полацк : Грэка-каталіцкая парафія Святамучаніка Язафата ў г. Полацку, 2012. — 128 с.

ISBN 978-985-6448-36-5.

Кніга уключае матэрыялы па рэлігійнай гісторыі Лідчыны.

Прысвечана складанай і трагічнай гісторыі грека-каталіцкай Царквы ў гэтым кутку Бацькаўшчыны. Разглядаецца рэлігійная гісторыя Лідчыны і ўсіх грэка-каталіцкіх прыходаў, якія існавалі да 1839 г.

Кніга будзе карыснай для чытача, які цікавіцца беларускай мінуўшчынай: настаўнікам і вучням агульнаадукацыйных школ, краязнаўцам, навукоўцам, выкладчыкам гісторыі і студэнтам.

**УДК 293**
**ББК 86.37**

**ISBN 978-985-6448-36-5**

# ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Нам часта здаецца, што гісторыя робіцца ў сталіцах і буйных палітычных, культурных, рэлігійных цэнтрах. На матэрыяле аднаго кутка Беларусі Леанід Лаўрэш паказвае, як нашыя продкі — ад князёў і царкоўных ерархаў — да сялян і шараговых святароў — "круцілі" гэта кола гісторыі.

Аўтар у сваёй працы на шматлікіх фактах раскрывае царкоўна-рэлігійныя працэсы, якія адбываліся на Лідчыне ў кантэксце аналагічных ўсходнееўрапейскіх працэсаў. Спачатку падаюцца малавядомыя сюжэты і факты аб распаўсюджванні хрысціянства ў краі. Далей паказана выспяванне ідэі царкоўнай уніі у Вялікім княстве Літоўскім, стварэнне і дзейнасць у Лідскім павеце ў XVII–XVIII ст. уніяцкіх прыходаў і базыльянскіх манастыроў. Потым адлюстраваны падзеі рэфармавання і ліквідацыі ў першай палове XIX ст. уніяцкай царквы на Лідчыне. Завяршае працу сюжэт пра аднаўленне ўніяцкіх прыходаў у канцы XX ст. і іх сучаснае жыццё. Побач са штодзённасцю і мікрагісторыяй у кнізе прысутнічае і "вялікая" гісторыя: ў людскіх дзеях, гістарычных постацях, гісторыка-культурных рэліквіях.

Аўтар не абыходзіць ўвагай некаторыя дыскусійныя пытанні далёкай мінуўшчыны, якія не страцілі сваёй актуальнасці і сёння: аб часе заснавання Маламажэйкаўскай царквы-крэпасці, аб адносінах святара з Дзікушак — бацькі Іосіфа Сямашкі — да сынавай палітыкі ліквідацыі ўніяцкай царквы.

Кніга напісана на аснове багацейшага фактычнага матэрыяла, вышуканага Леанідам Лаўрэшам, як правіла, з недаступных шы-

рокаму чытачу крыніц і літаратуры XIX–XX ст. Большасць гэтых выданняў з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Хоць фрагментарнасць захаваных дакументальных звестак месцамі ператварае кнігу ў своеасаблівы даведнік пра храмы і прыходы Лідчыны, тым не менш, выкарыстаная крыніцавая база дазволіла даследчыку-краязнаўцу рэканструяваць шэраг унікальных малавядомых і зусім невядомых фактаў з гісторыі свайго краю. Абраны аўтарам храналагічны падыход — даць важнейшыя вехі гісторыі прыходаў ад найбольш ранняга выяўленага ім сведчання аб царкве да сённяшняга дня — звязвае мінулае з сучаснасцю і дае адчуванне свайго месца ў ланцугу пакаленняў.

Безумоўна, прыведзеныя ў кнізе звесткі можна дапаўняць з улікам найноўшых даследаванняў. Гэта ж праца, першая такога роду, раскрывае далёка не вычарпаныя магчымасці беларускага царкоўна-гістарычнага краязнаўства наогул і акрэслівае напрамкі далейшага даследавання канфесійнай гісторыі Лідчыны. Кніга, якую вы трымаеце ў руках, нібы папярэджвае людзей — вернікаў і атэістаў, святароў і прыхаджан: ведайце, пра ўсе вашыя добрыя і дрэнныя ўчынкі даведаюцца нашчадкі, як і мы даведваемся пра справы і намеры сваіх далёкіх і нядаўніх папярэднікаў, дзякуючы закаханым у гісторыю даследчыкам мясцовай даўніны, з кагорты якіх паходзіць Леанід Лаўрэш.

*Святлана Марозава,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*

# РАСПАЎСЮДЖВАННЕ ХРЫСЦІЯНСТВА НА ЛІДЧЫНЕ

Гісторыя Ліды сягае ў глыб стагоддзяў. Дата заснавання горада, як назва, выклікаюць спрэчкі ў даследчыкаў. Звесткі пра час узнікнення Ліды супярэчлівыя: ад 1180 да 1380 г. Тэадор Нарбут пісаў у сваёй “Старажытнай гісторыі літоўскага народа” аб княстве Дайнова і заснаванні Ліды ў 1180 г.[1] Найбольш праўдападобнай датай з’яўляецца 1323 г. — пачатак будаўніцтва вялікім князем ВКЛ Гедымінам (1316–1341 г.) Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад[2]. На працягу 1323–1328 г. Гедымін узвёў каля балцкага паселішча Ліда, заснаванага паміж X–XII ст., магутны каменны замак з сотняй байніц і чатырохпавярховай вежай. З 30-х г. XIV ст. Ліда пачынае фігураваць у кантэксце розных падзей на старонках летапісаў і хронік Вялікага княства Літоўскага[3]. Такім чынам, Ліда ўпершыню згадваецца ў адзін год са сталіцай дзяржавы Вільняй, і большасць яе насельнікаў былі язычнікі.

Каля магутнага замка расце горад, і ў ім паступова распаўсюджваецца хрысціянства. Спачатку сюды прыйшло хрысціянства ўсходняга ўзору — праваслаўе, якое мясцовыя жыхары прыста-

[1] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[2] Коўкель І. Ліда // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск, 1997. С. 362.

[3] Марозава С. В. Ліда на старонках летапісаў і хронік Вялікага княства Літоўскага // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. — Ліда, 2009. С. 8.

соўвалі да сваіх паганскіх звычаяў, абрадаў, багоў. Вось як гэту ўнікальную з'яву зрастання язычніцкіх і хрысціянскіх вераванняў у Русі Літоўскай (беларускіх землях ВКЛ) апісвае кардынал П'ера д'Алы, які жыў у 1351–1420 гг.[4]: *"Русіны першымі занеслі хрысціянства ў Літву каля першай паловы XI ст., але пасля гэтыя хрысціяне, заразіўшыся няправым вучэннем маніхейства, у такой ступені зблізілі сваё хрысціянства з паганствам, што цяжка было сказаць, што пераважала ў гэтай сумесі — хрысціянства, якое ўвабрала ў сябе паганскія пачаткі, ці паганства, якое паглынула хрысціянскае веравучэнне. Невуцтва духавенства, аддзяленне яго ад зносінаў з царквою (каталіцкай — Л. Л.), падзенне Кіеўскага княства да такой ступені сапсавалі... ўсходняе хрысціянства, што некаторыя лічаць іх хутчэй язычнікамі, чым хрысціянамі. Святары не пасвячаліся епіскапамі, а перадавалі сваю пасаду дзецям па спадчыне, збеглыя з Русі манахі жаніліся на іх дачках, самі прымалі маніхейства і дапамагалі яго пашырэнню. Вясковы люд наведваў цэрквы, калі такія былі паблізу, і прымаў святы хрост, вялікая ж частка насельніцтва трымалася старога паганства, ці, змяшаўшы абедзве рэлігіі, адразу ўшаноўвалі ідалаў і прызнавалі праўдзівага Бога. Князі і баяры ўжо з XIII ст. прынялі звычаі, мову і веру русінскую, але ж карысталіся навучаннем падобных святароў ... і верылі ў мноства старых забабонаў"*[5].

Паводле Т. Нарбута, аднучасова з ўзвядзеннем Лідскага замка, г. зн. у 1320-я гг., на яго тэрыторыі была пабудавана праваслаўная царква Святога Юрыя[6]. Пазней, у 1553 г., яе перанеслі ў горад[7].

4 Pierre d'Ailly, гл. http://en.wikipedia.org/wiki/Pierre_d'Ailly

5 Смирнов М. Ягелло-Яков-Владислав и первое соединение Литвы с Польшей // Записки императорского Новороссийского университета. Одесса. 1868. Т. 2. С. 161–162.

6 Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

7 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.



*Лідскі замак на малюнку Гразнова*

Пад 1524 г. згадваецца аб існаванні ў Лідзе яшчэ адной праваслаўнай царквы, акрамя замкавай[8]. У пачатку XVII ст. крыніцамі згадваюцца яшчэ 2 праваслаўныя царквы: Прачысценская і Св. Спаса[9].

Горад Ліда прысутнічае ў “Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх” — гістарычна-геаграфічным творы канца XIV ст., у якім змешчаны пералік “рускіх” гарадоў Усходняй Еўропы. Мяркуецца, што ён складзены ў 1396 г. у канцылярыі мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна і адлюстроўвае населеныя пункты, падначаленыя ўладзе праваслаўнага (“рускага”) мітрапаліта.

8 Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

9 Тамсама.

У першай палове XIV ст. горад, у першую чаргу дзякуючы замку, з'яўляўся адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. Ліда становіцца цэнтрам намесніцтва, вядомага з 1382 г., а потым і павета ў складзе Віленскага ваяводства. Павет меў сваю харугву чырвонага колеру з выявай Пагоні[10].

Пасля Крэўскай уніі 1385 г. Ліда аказалася важным, бліжэйшым да Вільні населеным пунктам, праз які ляжаў шлях ад сталіцы ВКЛ да польскай сталіцы Кракава. Такое геаграфічнае рязмяшчэнне Ліды, разам з наяўнасцю добра ўмацаванага і да таго ж досыць камфартабельнага замкавага комплексу еўрапейскага тыпу, зрабіла горад месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках. Тут адбываліся важныя для абедзвюх дзяржаў сустрэчы, перагаворы, урачыстасці[11]. Усё гэта вабіла ў Ліду і хрысціянскіх місіянераў з захаду.

Пачатак каталіцтва ў Лідзе адносіцца да часоў княжання Альгерда. Адзін з літоўскіх вяльможаў, Гаштольд, прыняўшы рымакаталіцкую веру, узяў пад сваё заступніцтва манахаў ордэна Св. Францыска і пабудаваў для іх манастыр ў Вільні[12]. У 1366 г. тры францысканцы прыбылі ў ВКЛ з Польшчы, каб распаўсюджваць тут хрысціянскую веру, і пасяліліся ў Лідзе. Праз тры гады місіянераў забілі паганцы. Але новыя браты-францысканцы прыйшлі ў Ліду. Над магілай сваіх папярэднікаў яны пабудавалі капліцу, пры якой і пасяліліся. Лідскім старастам тады быў хрысціянін Даўгерд. У 1376 г. колькасць місіянераў павялічылася да 9 манахаў. Крыніцы паведамляюць, што яны прывезлі з сабой з Візны абраз Маці Божай[13]. Але ж вядома, што ў Візне ніколі не было францысканцаў,

10 Насевіч В. Лідскі павет // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 198–199.

11 Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 196.

12 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

13 Zmicorodzki J. Nowogrodek i okolice. Nowogrodek, 1931. S. 59.

а ў той час не было нават касцёла, каталіцкая парафія там з'явілася толькі ў 1390 г.[14]

Такім чынам, з 1360-х г. у Лідзе існавала францысканская місія. Горад згадваецца ў фундушавым дакуменце 1397 г., дадзеным францысканцам[15].

Новы этап хрысціянскай гісторыі Лідчыны пачынаецца з заключэння ў 1385 г. Крэўскай уніі. Есць звесткі, што ў горадзе адбылася выдача дзяржаўных грамат, звязаных з хрышчэннем Літвы[16]. У 1387 г. была створана Віленская рымска-каталіцкая епархія. Ва ўласнасць епархіі вялікі князь перадаў воласць Дуброўна каля Ліды[17].

У 1387 г. Ягайла заклаў у Лідзе адзін з першых касцёлаў у ВКЛ. Ён перадаў яму вёску, якая зараз называецца Плябанцы, і даход з нейкай іншай воласці. Касцёл знаходзіўся на падзамчы і згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў віленскі біскуп Андрэй, які зноў адчыніў пры касцёле францысканскую місію, бо ранейшыя місіянеры гэтага закону былі хутчэй за ўсё забітыя або выгнаныя падчас нападу крыжакоў на Ліду ў 1394 г. І гэты касцёл згарэў у 1406 г. У 1414 г. ён быў узноўлены як парафіяльны і пасвечаны пад назвай "Найсвяцейшай Дзевы Марыі Панны, Усіх Святых". Фрагмент прывілея касцёлу, дадзены Ягайлам, бярог сярод іншых дакументаў лідскі пробашч. У дадатку да пятага тома "Старажытнай гісторыі літоўскага

14 Pyzel K. Kościół parafialny p. w. Podwyższenia krzyża św. w Lidzie .. Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Tom 2, część III. Kraków, 2008. S. 98.

15 Тамсама. S. 93.

16 Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 196.

17 Насевіч В. Віленская рымска-каталіцкая епархія // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 2007. С. 417.

народа” Т. Нарбут змясціў тэкст гэтага прывілея, а таксама спіс пробашчаў лідскага касцёла[18].

У 1450 г. у вёсцы Крупа (зараз Крупава) пад Лідай пабудавалі філіяльны касцёл.

У 1672 г. лідскі войскі Адам Нарбут разам з жонкай Кацярынай фундаваў будаўніцтва кляштара кармелітаў. У другой палове XVIII ст. пры гэтым кляштары быў заснаваны касцёл Бязгрэшнага зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Ён існаваў да 1832 г., калі быў скасаваны. У 1908 г. будынак зруйнавалі[19].

---

18 Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197; Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2008. С. 233; Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1. (In nomine Dni Amen. Vladislaus dei gratie Rex polonie lituanieque Princeps supremus e. t. c. Heres mie e. t. c. Ad perpctuam rei memoriam. Quamquam ex suscepli cura Regiminis universorum nostrorum Regimini subditoruM utilitale tenemur ad ea tanien que diuini cultui administracionem decus ac gloriam ac statum felicem et quietem, ac virium firmitatem Ministrorum Omnipotentis conspiciunt, tanio dignius intendimus quantum pro ceteris mundi Princibibus nomen Regale solum magniricencie extollit et mirabilius universorum prouidencie creatoris con-sideranles sane Omnipotenlis inimensam clemenciam qua nos ovem pridem perditam ad Begales dignitates solium Clementissimi sublimauit, volentesque tanquam fidelis commissorum gubernator pro infinibis heneficiis aliquibus licet tamen exilio meritis obuiare. Ecclesiam vetere nostre fundacionis olim pp. cc. ord. s. Francisci Apostolis Lituanie cominendandam in opido nostro Lida nunc de nouo conslructam et ad honorem Omnipotentis Dei Gloriosissime Virginis Marie Omnium Sanctorum specialiler Sancti Crucis…… dicalum……dotauirnus bonis prouenlibus et utilitatibus ut in nostris literis ……..clare nitilur confirmamus et incorporamus donamus et appropriamus Lidensem……….Dougirdi……..ommos thelonis vulgariter. На абаротным баку стаяла дата дадаяая потым: A. Domini M. CCC. XIIII. Feria iijj. in hebd. Pentecost… У імя Бога, аман. Уладзіслаў Кароль Божай міласцю Польшчы, вялікі князь Літоўскі… і г.д….. На вечную памяць… Касцёл нашай старой фундацыі ордэна Святога Францішка, Апостала Літвы, заснаваны раней у нашым горадзе Ліда, зараз нанава збудаваны і названы ў гонар Усіх Святых, асабліва Святога Крыжа, мы надзяляем маёмасцю і прывілеямі…).

19 Кулагін А. М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2000. С. 184.

У першай трэці XVIII ст. у Лідскім павеце з’явіліся піяры. У 1756 г. па прапанове лідскага старасты І. Сцыпіёна піярскі калегіум, які быў створаны ў 1730 г. у Воранаве, перанеслі ў Ліду. Мясцовая шляхта ахвяравала піярам фальварк Пастаўшчызна і юрыдыку ў Лідзе. У 1834 г. у піяраў была канфіскавана іх навучальная ўстанова і рэарганізавана ў 5-класнае дваранскае павятовае вучылішча[20].

У 1747 (1765?) — 1770 гг. у Лідзе быў пабудаваны з цэглы ў стылі барока, верагодна па праекце віленскага архітэктара Глаўбіца, фарны касцёл Уздзвіжання Святога Крыжа, які дзейнічае да нашага часу[21].




*Лідскі Фарны касцел на пачатку XX ст.*

20 Самусік А. Лідскі піярскі калегіум // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 199; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107–109.

21 Кулагін А. М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2000. С. 86; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107–109.

У сярэдзіне XVI ст. Лідчыну ахапіў рэфармацыйны рух. Кальвіністы з'явіліся ў павятовым горадзе і наваколлі. Іх колькасць так хутка расла, што лідскі касцёл быў на некаторы час зачынены з-за недахопу вернікаў[22]. Вучэнне Кальвіна ў гэтай мясцовасці карысталася падтрымкай князёў Радзівілаў і лідскіх старастаў Абрамовічаў. У Лідзе, Мацкішках, Дакудаве, Сяльцы, Беліцы, Ляцку і інш. былі збудаваныя зборы кальвіністаў. Поступ Рэфармацыі скончыўся са з'яўленнем тут езуітаў, якія на працягу апошняй трэці XVI–XVIII ст.ст. заснавалі некалькі сваіх місій у межах Лідскага павета: у Тракелях, Дворышчах, Ваверцы, Дылеве, Семякоўшчыне і шэрагу іншых населеных пунктаў[23].

22 Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

23 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

# ШЛЯХ ДА ЯДНАННЯ

Хрысціянства прыйшло на беларускую зямлю ў IX ст., яшчэ не будучы падзеленым на ўсходняе і заходняе. Да 1054 г. існавала адзіная хрысціянская царква. І нават царкоўны раскол не адразу атрымаў тут шырокі рэзананс. Існуе меркаванне, што нашы продкі трымаліся ў роўнааддаленнасці ад абодвух рассвараных цэнтраў хрысціянства — Царгарада і Рыма. Наступствы царкоўнага расколу да гэтага часу адчувае на сабе беларускі народ, які воляй гістарычнага лёсу апынуўся на месцы разлома хрысціянства — ў зоне сустрэчы-сутыкнення яго ўсходняга і заходняга адгалінаванняў.

Крэўская ўнія парушыла манаполію праваслаўнай царквы на духоўнае лідэрства ў ВКЛ. Паводле Гарадзельскага прывілея 1413 г. каталіцкая шляхта атрымала перавагі ў вышэйшых дзяржаўных сферах. У той жа час вялікія князі літоўскія не маглі ігнараваць ролю праваслаўнай шляхты ў дзяржаве, і ў пачатку 30-х г. XV ст. абмежаванні для праваслаўнай царквы і шляхты былі часткова адмененыя, а пазней, перад Люблінскай уніяй, скасаваныя цалкам[24].

Тым не менш, з канца XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім набіраў сілу рэлігійны антаганізм паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам, які вымагаў пошуку кампрамісаў у канфесійнай сферы, патрабаваў рэлігійна-культурнага дыялогу і ствараў спрыяльную глебу для выспявання і прарастання тут ідэі еднасці

[24] Васюк Г.В. Теоретико-методологические подходы к исследованию истории православной церкви на территории Беларуси в конце X — начале XX в. // Хрысціянства у гістарычным лёсе беларускага народа. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна, 2008. С. 43–47.

Царквы. Цесна знітаваная з праблемай адстойвання царкоўнага і дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ, гэта ідэя то ажывала, то затухала. Яе жывілі тут геапалітычны і экуменічны фактары.

Ранні экуменічны рух у хрысціянскім свеце ўвасабляўся ў форму ўсяленскіх царкоўных уній, заключаных на ўмовах прызнання Ўсходняй царквой каталіцкай эклезіялогіі і дагматыкі, але пры захаванні свайго літургічнага абраду. Такімі былі Ліёнская ўнія 1274 г. і Фларэнційская ўнія 1439 г.

Першы раз пытанне аб уніі у ВКЛ было ўзнята каля 1396 г. Ягайла і Вітаўт прапаноўвалі склікаць сабор, які мог бы заняцца пытаннем рэлігійнага аб'яднання хрысціянскага Ўсходу і Захаду, дзесьці на іх "рускіх" землях, паколькі ў тагачаснай рэлігійна-палітычнай сітуацыі такі сабор не мог быць скліканы ні на Захадзе, ні на Ўсходзе[25].

У 1396 г. у Вільні адбылася размова паміж кіеўскім (фактычна маскоўскім) мітрапалітам Кіпрыянам і Ягайлам аб неабходнасці ўніі паміж праваслаўнай і рыма-каталіцкай цэрквамі. Кароль і мітрапаліт звярнуліся да канстанцінопальскага патрыярха з прапановай склікаць "на Русі" агульнацаркоўны сабор і дамовіцца пра аб'яднанне з каталіцкай царквой. Саму ідэю патрыярх падтрымаў, аднак лічыў, што рэалізацыю яе патрэбна адкласці з-за неспрыяльных для праваслаўя часоў (турэцкая пагроза Візантыі).

У 1415 г. была створана аўтакефальная Літоўска-Наваградская мітраполія з цэнтрам у Наваградку. На чале яе стаў пляменнік Кіпрыяна балгарын Рыгор Цамблак, абраны на саборы ў Наваградку. Густынскі летапіс паведамляе пра гэта наступнае: *"У год 6923 (1415 — Л. Л.) Вітаўт, Вялікі князь Літоўскі, бачачы, што святая Сафія (Сафійскі сабор у Кіеве — Л. Л.), стольная царква мітрапаліта, не мае гаспадара ..., а мітрапаліты, прыйшоўшы з Масквы, толькі пра тое клапоцяцца, каб, што каштоўнае ў Сафіі знайшоўшы, сабе ўзяць, а таксама даніну ў святароў сабраўшы,*

25 Halecki O. Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej / Przekł. A.Niclewicz. Lublin-Rzym, 1997. — T. I. S 36–37.

*ў Маскву з сабой завезці, ... загадаў усім епіскапам і святарскаму кліру сабрацца на з'езд ..., і калі сабраліся, паводле яго волі ў Наваградку ўсе епіскапы: Ісая Чарнігаўскі, Феадосі Полацкі, Дыяніс Луцкі, Герасім Уладзімірскі, Харытон Холмскі, Яўхім Тураўскі і іншыя святары і шмат баяраў, сказаў ім Вітаўт: "Пастаўце сабе мітрапаліта ў маёй дзяржаве, у Кіеве, па даўнім звычаі, бо хоць я і іншай веры, але шкадую, што так запусцела і збяднела ў маёй дзяржаве ваша Кіеўская мітраполія, бо Маскоўскія мітрапаліты клапоцяцца не пра вас, а пра прыбыткі ад вас. Калі не захочаце паставіць тут сабе мітрапаліта, то той, хто пойдзе за мітрапаліта ў Маскву, выносячы казну з маёй дзяржавы ... смерцю загіне"*[26].

Новастворaная мітраполія адразу праявіла цікавасць да пытання аб заключэнні ўсяленскай уніі. У 1418 г. Рыгор Цамблак выступіў на Кастанцкім саборы з праектам Вітаўта аб заключэнні царкоўнай уніі.

Найбольш значнай гістарычнай спробай глабальнага аднаўлення адзінства хрысціянства была Фларэнційская ўнія 1439 г., адным з ініцыятараў і падпісантаў якой быў кіеўскі (маскоўскі) мітрапаліт Ісідор. Па вяртанні з Фларэнційскага сабора ён абвяшчаў унію ў "літоўскай" частцы сваёй (тады яшчэ не падзеленай) Кіеўскай мітраполіі і быў прыхільна сустрэты ў Кіеве, Полацку, Смаленску. У Маскве ж яго абвінавацілі ў заключэнні "ерэтычнай" уніі і заключылі ў манастырскую турму, адкуль яму ўдалося ўцекчы ў Вялікае княства Літоўскае.

У 1458 г. адбыўся афіцыйны падзел адзінай да таго Кіеўскай мітраполіі на дзве мітраполіі: Літоўскую і Маскоўскую. Падставай сталі прэтэнзіі літоўска-наваградскага мітрапаліта Грыгорыя на кананічную ўладу над усёй тэрыторыяй былой Кіеўскай Русі і яго спробы пашырыць унію. Падлічана, што з дзевяці мітрапалітаў, абраных у ВКЛ у XV ст., пяцёра былі ўніятамі або прыхільнікамі царкоўнай уніі[27].

[26] Падокшын С. А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура. Мінск, 2000. С. 28.

[27] Абламейка С. Хай усе будуць адно // Беларуская мінуўшчына. 1994. № 4. С. 33–36.

Да канца XVI ст. выразна выяўляецца асобнасць гістарычнага лёсу праваслаўя ў ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве. Узмацненне ўлады вялікіх маскоўскіх князёў за кошт ліквідацыі правоў розных слаёў грамадства ставіла праваслаўную царкву ў поўную залежнасць ад самаўпраўства свецкіх уладаў. І, наадварот, у ВКЛ праходзіў працэс паступовай трансфармацыі грамадства ў бок шляхецкай дэмакратыі. Праваслаўная царква, як грамадскі і рэлігійны інстытут, а праваслаўнае духавенства, як саслоўе, знаходзіліся пад абаронай законаў. Праваслаўнае насельніцтва мела магчымасць выяўляць грамадскую актыўнасць, якая, напрыклад, у канцы XVI ст. праявілася ў стварэнні і актыўнай дзейнасці царкоўных братстваў.

Ідэя ўніі ў ВКЛ у XV–XVI ст. абумоўлена геапалітычным становішчам беларускіх земляў паміж хрысціянскім Захадам і Ўсходам, а таксама сінтэзам усходняй і заходняй еўрапейскіх культур. Лідэры беларускай праваслаўнай царквы, а таксама шляхта і мяшчане ў значнай ступені былі інтэграваныя ў заходнееўрапейскую культуру. Спробы абараніцца ад яе ўплыву ва ўмовах пашырэння сувязяў з Польшчай і краінамі Заходняй Еўропы вялі да культурнай і палітычнай ізаляцыі.

У другой палове XVI ст. праваслаўная царква Кіеўскай мітраполіі, якая ўнесла вялікі ўклад у духоўную культуру беларускага народа, зведала моцныя ўдары Рэфармацыі і контррэфармацыі. Процістаяць ім магла толькі царква з магутным інтэлектуальным патэнцыялам. Аднак, праваслаўе на беларускіх землях не мела тады ўласнай багаслоўскай школы і магутных інтэлектуальных цэнтраў. Праваслаўны Ўсход не мог аказаць рэальнай дапамогі ў рашэнні гэтых праблем, таму што Візантыя знаходзілася пад уладай турак. У другой палове XVI ст. праваслаўная царква ВКЛ апынулася ў стане крызісу, выкліканым слабым узроўнем адукаванасці яе духавенства і падзеннем царкоўнай дысцыпліны. Адмоўнае значэнне мела і традыцыйная залежнасць праваслаўнай царквы ад свецкай улады. У пошуках выхаду з крызісу сваёй царквы, прадстаўнікі праваслаўнай эліты прыйшлі да ідэі рэгіянальнай уніі

з Рымам. Ужо згаданыя аб'ектыўныя геапалітычны і экуменічны фактары, узмоцненыя ростам міжканфесійнай напружанасці ў паслялюблінскі перыяд, вымагалі пошуку кампрамісаў у рэлігійнай сферы. Беларусь стала першапраходцам у практычным вырашэнні праблемы аб'яднання хрысціян. Разам з тым, Брэсцкая царкоўная ўнія мела і палітычнае адценне. Частка інтэлектуальнай і палітычнай эліты ВКЛ убачыла ў ёй шлях кансалідацыі грамадства на канфесійнай аснове[28].

Уніяцкая царква нарадзілася на царкоўным саборы 1596 г. у Брэсце. На пачатку яна сустрэла пэўны супраціў. Аднак у 1630-я г. тварам да ўніі паварочваецца беларуская шляхта, на працягу другой паловы XVII–XVIII ст. уніяцтва прымае большасць праваслаўных беларусаў.

28 Васюк Г. В. Теоретико-методологические подходы к исследованию истории православной церкви на территории Беларуси в конце X — начале XX в. // Хрысціянства у гістарычным лёсе беларускага народа. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна. 2008. С.47–50.

# УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА НА ЛІДЧЫНЕ

У другой палове XVI ст., калі на беларускіх землях віравала Рэфармацыя і контррэфармацыя, выношвалася і рэалізоўвалася ідэя царкоўнай уніі, Ліда ўзвысіла свой адміністрацыйны статус, стаўшы ў 1566 г. цэнтрам павета. 17 верасня 1590 г. гораду было нададзена магдэбурскае права[29], што таксама падкрэслівала яго эканамічную і грамадскую значнасць.

На мяжы XVI–XVII ст. на Лідчыне сталі з'яўляцца грэкакаталіцкія прыходы. Адным з першых, верагодна, быў прыход у вёсцы Дакудава, які стварыў яе ўладальнік Юры Мікалаевіч Радзівіл (1578–1613 гг.)[30].

На працягу XVII ст. уніяцкая царква ўсталёўваецца ў Лідскім краі. Ужо ў першай палове стагоддзя ў горадзе дзейнічалі 4 грэкакаталіцкія царквы: Св. Яна, Св. Мікалая (каля рынкавай плошчы), Св. Спаса (у горадзе), царква Прачыстай (на Зарэччы)[31]. У купчай, якой афармлены продаж 7 красавіка 1630 г. лідскім мяшчанінам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам сваёй зямля і хаты Мацею Вайцехавічу і яго жонцы Парасе Фёдараўне, згадваецца Фёдар Грынявецкі, святар храмаў Божых у горадзе Лідзе — у імя Прачыстай і Святога Мікалая *(“Chwiedor Hryniewiecki swieszczennik domu Bozego Przyczystey y swietego Mikolaya w Lidzkiem miescie*

---

29 Pyzel K. Kościoł parafialny p.w. Podwyższenia krzyża św. w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2., cz. III. S. 95.

30 Наша слова. 2003. № 44. 26 лістапада.

31 Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S. 107–109.

*stojacych"*. Пры апісанні межаў пляца ў купчай ясна ўказана месцазнаходжанне Прачысценскай цэрквы: *"іншым жа канцом да самой вуліцы, якая ідзе з горада Ліда на Дуброўну і Ліпнішкі, ідучы гэтаю вуліцай па дарозе з г. Ліды ад рынку і ад замка да Прачысценскай цэрквы па правай руцэ"*. З гэтага ўдакладненя відаць, што Прачысценская царква размяшчалася на тым месцы, дзе на пачатку XX ст. знаходзілася хатка Каліноўскага на Зарэччы[32]. Цяпер — гэта скрыжаванне вуліц Калініна і Стралкоўскага.

Вымушаны лічыцца з патрабаваннямі праціўнікаў царкоўнага аб'яднання з ліку шляхты, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV у 1633 г. дазволіў *"неуніатам ... адпраўляць набажэнствы без усялякай перашкоды пад пагрозай адказнасці па законах* (за перашкоду — Л. Л.)*"* і сярод іншых беларускіх храмаў перадаў царкву Св. Спаса ў Лідзе праваслаўнаму прыходу[33].

Імя аднаго з лідскіх святароў сярэдзіны XVII ст., Філона Круковіча, мы даведваемся з матэрыялаў судовай справы, якая слухалася 18 снежня 1647 г. у Галоўным трыбунале Вялікага княства Літоўскага ў сувязі са спрэчкай вакол маёнтка Вялікая Крупа. Трыбунал прысудзіў тады Марціна і Івана Палонскіх выплаціць Філону Круковічу доўг і пеню ў памеры 618 коп літоўскіх грошай[34].

Знішчальнай навальніцай пракаціліся па нашаму краю ваенныя падзеі 1654–1667 г. У 1655 г. рускія войскі спустошылі Ліду і яе ваколіцы. У 1656–1657 г. гэту мясцовасць спасціг неўраджай. Становішча жыхароў яшчэ больш пагоршыла моравая пошасць, якая лютавала восенню-зімой. У гэтым усеагульным замяшанні ў Лідскім павеце з'явілася шмат бадзяг, уцекачоў, перасяленцаў, якіх вайна сагнала з абжытых месцаў. З-за гэтага пачасціліся рабаванні, забойствы, наезды на маёнткі, разносілася эпідэмія.

32 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

33 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. СПб., 1897. С. 227–228.

34 Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Декреты Главного Литовского трибунала. Том 15. Вильна, 1888. С. 38.

Вайна ўзмацніла міжканфесійную напружанасць, якую распальвала таксама і царская палітыка пераследу беларускіх уніятаў. У 1658 г. з'явілася скарга праваслаўнага духавенства (аўтар — кіева-пячорскі архімандрыт Інакенцій Гізель) маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу на ўніятаў, якія ўціскаюць праваслаўных у Лідзе, Ваўкавыску, Гродне, Навагрудку, Слоніме і іншых беларускіх гарадах[35] .

Уніяцкай царкве пад час той вайны даставалася асабліва. Самому мітрапаліту Антону Сяляве давялося ратавацца ўцёкамі, патаемна пераязджаць з месца на месца, хаваючы ад захопнікаў мошчы полацкага ўніяцкага архіепіскапа Св. Язафата Кунцэвіча, якія да вайны захоўваліся ў Полацку (зараз гэтыя мошчы Св. Язафата — патрона сучаснай Лідскай грэка-каталіцкай парафіі, знаходзяцца ў саборы Св. Пятра ў Рыме). У 1658 г. цар загадаў свайму ваяводзе Міхайлу Шахоўскаму *“из города Вилны и из иных городов и мест, которые к Вилне близко, униятов всех, кто где живет,... высылать вон тотчас, и заказ учинить крепкой, чтоб впредь униятов нигде не приймовали и высылали их вон, чтобы от них в вере каких расколов не было”*. Сабраўшы мясцовых уніятаў, ваявода ўльтыматыўна заявіў ім: калі не перахрысцяцца ў праваслаўе, будуць выгнаны з радзімы[36]. Пазнаўшы такую талеранцыю, беларусы да канца XVII ст. масава прынялі ўнію.

Увосень 1659 г. маскоўскі ваявода князь Іван Хаванскі, рухаючыся з 30-тысячным войскам з Вільні ў Гродна, падступіў да Ліды. Лідскі замак, нягледзячы на адчайную абарону, быў захоплены, а горад разрабаваны і спалены. Тады былі знішчаны і ўсе лідскія ўніяцкія цэрквы. Горад прыйшоў у заняпад[37]. Лідскі павет страціў у тую вайну 24,7% насельніцтва[38].

---

35 Палуцкая С. В. З гісторыі уніяцтва на Лідчыне // Наш Радавод. Ліда, 1993. С. 67.

36 Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654–1667. Мінск, 1995. С. 72–73.

37 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

38 Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654–1667. Мінск, 1995. С. 140.

Людскія і матэрыяльныя страты былі настолькі вялікімі, што сойм Рэчы Паспалітай 1676 г., каб даць гораду адрадзіцца, вызваліў Ліду ад падаткаў. Неспакойнымі былі для Ліды і наступныя гады. У 1679 г. горад згарэў ад пажару. У 1702 г. і 1710 г. Ліду спалілі шведы. Таму ў 1717 г. Вальны сойм Рэчы Паспалітай зноў вызваляе горад ад падаткаў, а таксама пацвярджае яго старыя прывілеі.

У другой палове XVIII ст. Ліда інтэнсіўна развіваецца. У 1765–1770 гг. паўстаў новы мураваны касцёл — Фарны, пабудаваны замест старога драўлянага. Недзе тады ж на Рынкавай плошчы ўзвялі мураваную ратушу, упрыгожаную порцікам з калонамі. Пры ратушы існавала старадаўняя драўляная пабудова, выкананая ў гатычным стылі. Каля ратушы аднавілі ўніяцкую царкву Св. Мікалая. Аднавілася таксама ўніяцкая царква на Зарэччы.

Дакладнае месцазнаходжанне ў раёне Рынкавай плошчы ўніяцкай царквы Св. Мікалая да нядаўняга часу было невядома. На карце Ліды канца XVIII ст. гэта царква пазначана літарай “О”, а ў паясняльным тэксце напісана: “О” — уніяцкая царква, на мапе неразборліва”. Таму знайсці царкву на карце XVIII ст. (напрыклад, змешчанай у манаграфіі А. Краўцэвіча “Гарады і замкі Беларускага Панямоння”[39]) немагчыма. І толькі на карце, надрукаванай у кнізе В. А. Чантурыі “Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в.”, упершыню дакладна пазначана царква Св. Мікалая. Яна размяшчалася каля кляштара піяраў; насупраць яе, праз Віленскую вуліцу, стаяла сінагога[40].

На пачатку XIX ст. горад меў два цэнтры, размешчаныя на восі, якой была вуліца Віленская. У адным цэнтры знаходзіўся замак,

39 Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мінск, 1991. С. 100.

40 Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.




Рис. 10. Лида. Идеализированная схема градостроительной композиции: *А* — главная улица; *Б* — второстепенные улицы; *В* — визуальные связи, иллюстрирующие зигзагообразный характер последовательного восприятия доминант; *Г* — условные связи, иллюстрирующие принцип равновесия в расположении объемов. Поясняющие подписи к рис. 10, 11: *1* — юго-западная башня замка; *2* — северо-восточная башня замка; *3* — костел Воздвижения Креста 1747—1770 гг.; *4* — ратуша XVIII в.; *5* — церковь униатского

*6* — костел св. Иосифа 1797—1825 гг.

коллегиума пиаров; *7* — костел Девы Марии второй половины XVIII в. монастыря кармелитов; *8* — синагога XVIII в.; *9* — главная площадь; *10* — культово-торговая площадь; *11* — торговые ряды XVIII в.

*Цэнтр горада ў XVIII ст. з уніяцкай царквой.*
*Карта з кнігі Чантурия Ю. В. “Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в.”*

Фарны касцёл, кляштар кармелітаў, у другім — ратуша, сінагога, уніяцкая царква Св. Мікалая і кляштар піяраў[41].

У 1765 г. з дрэва разабранага старога Фарнага касцёла (*“як кажуць, яшчэ добрым для сценаў”*[42]) паміж гарадскімі каталіцкімі могілкамі і млынам пабудавалі новую вялікую ўніяцую царкву Ўваскрасення Господня. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь[43]. Царкву у 30-х гадах XIX ст. зруйнавала бура[44]. На карце горада 1842 г. на гэтым месцы пазначаны толькі шпіталь.

Аднаўленая ўніяцкая царква Прачыстай Багародзіцы існавала ў Лідзе да пачатку XIX ст.[45] Калі прышла ў заняпад царква Св. Мікалая, невядома, але на карце горада 1842 г. яе ўжо няма. У 1832 г. уніяцкай царкве быў перададзены скасаваны кармеліцкі манастыр[46], але ўсё роўна месца для правядзення набажэнстваў у 1830-я г. не мелі, бо грошаў дзеля ўладкавання па-кармеліцкага касцёла пры кляштары не было. Літоўскі епіскап Іосіф Сямашка планаваў перадаць яго ў ваеннае ведамства і ў 1837 г. пісаў на гэты конт обер-пракурору Сінода Пратасаву наступнае: “*...Лідскім грэка-ўніяцкім вернікам для адпраўлення набажэнства забяспечана іканастасам і прыстойна ўладкована невялікая Ольжаўская Грэка-ўніяцкая капліца, і хоць лік ... вернікаў абодвух палоў не перавышае трохсот, яны па неабходнасці павінны задавольвацца гэтай капліцай, зважаючы на тое, што капліца гэта знаходзіцца ў пяці ці шасці вярстах ад горада Ліда і туды ... збіраецца па справах і на гандаль шмат іншых уніятаў, ... вельмі патрэбна ўніяцкая царква*

41 Pyzel K. Kościoł parafialny p.w. Podwyższenia krzyża św. w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2., cz. III. S. 95.

42 Тамсама. S. 103.

43 Kuwalek R. Rzymskokatolicki cmentarz przy ul. Grazyny // Zemia Lidzka. 1996. № 18–19. S. 16.

44 Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторически очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

45 Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107–109.

46 Палуцкая С. В. З гісторыі уніяцтва на Лідчыне // Наш Радавод. Кн. 6: З гісторыі Лідчыны. Ліда, 1994. С. 67.

*ў самім горадзе Ліда. Таму я не знаходжу перашкоды, каб аддаць цяпер жа ў ваеннае ведамства азначаную вышэй па-кармеліцкую каменную царкву, адважваюся аднак жа аднавіць ... маю даўнюю думку, каб замест меркаванай пабудовы у горадзе Лідзе новай уніяцкай царквы, пры пераробцы згаданай па-кармеліцкай царквы ў праваслаўную, уладкаваць у ёй для ўніятаў бакавы прыдзел”*[47].

Паводле дакументаў Архіва ўніяцкіх мітрапалітаў, што з часоў ліквідацыі ўніяцкай царквы на Беларусі захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу, у 1743 г. Лідскі ўніяцкі дэканат заплаціў мітрапаліту штогадовы падатак на ўтрыманне свайго епіскапа і кафедральнай царквы “cathedraticum” у памеры 60 злотых, Ашмянскі — 154 злотых, Мядзельскі — 104 злотых. З улікам памеру падатку, відавочна, што ў Лідскім павеце ўніятаў было меней, чым на Ашмяншчыне і Мядзельшчыне, але было больш рыма-католікаў[48]. У 1747 г. з кожнага *“каплана”* неабходна было заплаціць гэтых выплат *“по одному битому талеру”*. Лідскі павет заплаціў тады 12 талераў[49], што сведчыць аб такой жа колькасці ўніяцкіх святароў на Лідчыне. Адзін з іх — лідскі “*парах”*[50] Антоні Марцінеўскі, пра якога вядома, што ён у тым жа годзе няправільна, без споведзі і абвяшчэнняў, павянчаў шлюб[51].

Важнейшай крыніцай рэкрутацыі ўніяцкага духавенства былі сем’і саміх святароў. Пра аднаго з кандыдатаў у духоўнае званне крыніцы Архіва ўніяцкіх мітрапалітаў, датаваныя 1770 г., сведчаць наступнае: *“Якаў Зухавецкі — сын святара, у дзяцінстве браў навукі ў Яна Скарымскага, дэкана лідскага, потым быў забраны ад дэкана сваім старэйшым братам, парахам навагрудскім Лукой*

47 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 330–331.
48 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 84.
49 Тамсама. С. 118.
50 Парах — сьвятар які мае паўнаважанні стала кіраваць парфіяй (прыходам).
51 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 116.

*і адданы ў Жыровіцкую школу, ... потым паступіў на “дворскую” службу і два гады “трезво” и “верно” служыў ... ротмістру Міхаілу Крышылоўскаму. Даследаванне “de vita et moribus”, якое правёў камісар Лідскага дэканата, святар Міхаіл Канцэвіч.* У наступным дакуменце: *“Зухавецкі два гады “трезво” и “верно” служыў ... ротмістру Міхаілу Крышылоўскаму, які выдаў аб гэтым пасведчанне, потым вярнуўся да сваёй “фамилии” ... намерваючыся прыняць духоўны сан”*[52]. Дакументы гавораць пра дастаткова строгія патрабаванні да прэтэндэнтаў на святарскую годнасць: наяўнасць адукацыі, цвярозы лад жыцця, бездакорная папярэдняя служба.

Клопат кіраўніцтва царквы аб павышэнні адукацыйнага ўзроўню ўніяцкага святарства знайшоў адлюстраванне ў пастанове Наваградскай кангрэгацыі 1753 г. Яна абвязвала ў кожным уніяцкім дэканаце адкрыць школу для дзяцей святароў ва ўзросце ад 7 да 10 гадоў, каб яны там за кошт бацькоў тры гады вучыліся чытаць *“по руско-славянски”* псалтыры, актоіхі і ірмалоі, навучаліся царкоўным спевам і парадку набажэнства. А калі б хто з духавенства не пажадаў аддаць свайго сына ў школу, то падлягаў штрафу на працягу трох год — па 3 талеры. Гэты штраф паступаў на выхаванне ў школе бедных дзяцей. У хуткім часе такая школа адкрылася ў Орлі Лідскага дэканата. Навучаннем і выхаваннем дзяцей займаліся святары з суседніх вёсак Васкевічы, Збляны і дэкан з Жыжмы[53].

Пра нізкі ўзровень жыцця ўніяцкага святарства, які не моцна адрозніваўся ад сялянскага, але высокі ўзровень яго маральнасці, Баброўскі П. В. у сваім даследаванні “Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I” пісаў так: *“Пры беднасці зямельнага надзелу, пры недахопе царкоўных дамоў і гаспадарчых будынкаў, ... святар, абцяжараны сям’ёй, моцна трымаўся свайго роднага кутка, шанаваў сваю ўбогую святыню,*

52 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. С.-Петербург, 1907. С. 261–262.

53 Тамсама. С. 153.

*дзе нядаўна яшчэ маліўся яго бацька, дзе былі магілы яго продкаў, і не думаў пакідаць як бы спадчыннага прыходу … Хатка ўніяцкага святара адрознівалася ад сялянскіх хатаў толькі дымавою трубою, надзел зямлі святара вылучаўся ад суседніх толькі дбайнасцю апрацоўкі, … быў у святара і дагледжаны садок з некалькімі дзясяткамі яблыняў, пасаджаных ягоным бацькам ці дзедам … Усё ў царкоўнай сядзібе, пачынаючы ад даху са свежымі латкамі ці званіцы з падпоркамі і канчаючы няхітрым тынам, дзе кожны кол каштаваў вялікай працы … Усе гэтыя будынкі былі крытыя саломаю і сведчылі пра сціплую стараннасць … гаспадароў … Вернікі шанавалі сваіх пастыроў, парадніўшыся з ім і яго сямейcтвам духоўнай і сямейнай сувяззю. Бедны, але ашчадны ўніяцкі святар ніколі не адмаўляў у дапамозе вернікам і, нярэдка, сам задавольваючыся кавалкам чорнага хлеба, нічога не шкадаваў для адукацыі сваіх дзяцей”*[54].

У першай палове XIX ст. ужо каля 40% уніяцкіх святароў Літоўска-Віленскай епархіі атрымалі адукацыю ў семінарыі, прыкладна столькі ж былі выпускнікамі семінарый пры базыльянскіх манастырах, 14% скончылі парафіяльныя школы, 1,65% мелі вышэйшую адукацыю, астатнія — хатняе выхаванне[55]. Даследчыкі адзначаюць, што ўніяцкае святарства з’яўлялася даволі закрытай групай насельніцтва. Большасць святароў належала да старажытных святарскіх радоў, чые карані паходзілі яшчэ з XVI ст. Старадаўнія святарскія роды на Лідчыне — гэта Касцевічы і Шыманскія (а, напрыклад, на Наваградчыне — Баравікі, Галоўчыцы і Плаўскія)[56].

Згодна з візітацыяй 1792 г., ў Лідскім дэканаце мелася 15 цэркваў. Пры трох з іх да таго часу згарэлі плябаніі, у Орлі — дашчэнту. За год паспелі напілаваць лесу, зацягнуць яго на святарскі

54 Бобровский П. О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890. С. 194.

55 Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839. Мінск, 2011. С. 47.

56 Тамсама. С. 33–34.

двор і пачалі будаваць зруб. У пажары згарэла ўся дакументацыя, і святару патрэбна было перараскладаць і ўзгадняць фундушы, хадатайнічаць аб узнаўленні асабістых дакументаў (рабіць копіі з мітрапаліцкага архіва). *"З гэтага нешчаслівага выпадку і сам парах мясцовы хваробу і слабасць займеў, у якой і дагэтуль застаецца"* — пісаў візітатар Андыян Бутрымовіч пра святара Войцеха Маршынскага. У Турэйску плябанія згарэла ў 1783 г., і за дзесяць гадоў парах Антон Снарскі не паспеў цалкам аднавіць сваё жыллё. У Сабакінцах ў 1788 г. згарэла палова дома, засталася камора і пякарня, у якой і жыў стары парах Стэфан Сасіновіч. Як правіла, усе плябанскія будынкі былі абнесеныя агароджамі рознага кшталту (часцей за усе — жэрдкамі). А вось плябанія Андрэя Касцевіча з Лябёдкі мела экзатычны плот з хмызняку, накшталт плятня[57]. Амаль што пры кожнай плябаніі меўся гарод, а вось сад быў ужо значна радзей. З 15 лідскіх цэркваў 6 мелі шпіталі, што ўказвае на заможнасць Лідскага дэканата, бо на ўтрыманне шпіталя патрэбны былі дадатковыя фундушы. Звычайны шпіталь пры ўніяцкай царкве — гэта невялікая драўляная хата з комінам. Часцей за усё, у шпіталі царква ўтрымлівала старых і нямоглых людзей[58].

У Лідскім дэканаце мелася 81 літургічная кніга, і па забяспечаннасці службовымі кнігамі дэканат не вылучаўся сярод іншых. Але паводле пастаноў Замойскага сабору 1720 г., акрамя літургічных кніг кожны парах павінен быў мець яшчэ і своеасаблівы кодэкс паводзін святара — складзенае мітрапалітам Львом Кішкам і выдадзенае ў 1722 г. у Супраслі "Собрание припадковъ краткое, и духовнымъ особам потребное". Ні адна з 15 цэркваў Лідскага дэканата ў 1792 г. не мела гэтай кнігі[59].

Звычайна царква мела нейкі надзел зямлі; ад земляробства лідскія цэрквы ў сярэднім мелі 200 злотых у год (у 1784 г.). Пры-

---

57 Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх земель 1720–1839. Мінск, 2011. С. 72, 74.

58 Тамсама. С. 73–74.

59 Тамсама. С. 89.

належнасць зямлі знаходзіла сваё адлюстраванне ў мясцовых назвах. Пераважная большасць царкоўных уладанняў мела характэрныя назвы "Царкоўшчына", "Папоўшчына", "Манастырышча" і г. д., такія кавалкі зямлі мелі агульную назву "ўрочышчаў"[60].

[60] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839. Мінск, 2011. С. 78.

# БАЗЫЛЬЯНЕ НА ЛІДЧЫНЕ

Ордэн святога Васіля Вялікага, якога шанавалі як усходнія, так і заходнія хрысціяне, быў адноўлены (фактычна, створаны нанова) кіеўскім уніяцкім мітрапалітам Іосіфам Руцкім у 1617 г. у Наваградку, дзе адбылася першая кангрэгацыя новага манаскага ордэна. Кангрэгацыя зацвердзіла статут ордэна, распрацаваны І. Руцкім на аснове правілаў Св. Васіля і на ўзор статутаў каталіцкіх законаў. Руцкі быў абраны першым протаархімандрытам (генералам) базыльянскага ордэна, які для ўніяцкай царквы адыграў значную ролю, аналагічную ролі ордэна езуітаў у каталіцкай царкве. Рэзідэнцыяй базыльянскага ордэна стаў Тараканскі манастыр у Кобрынскім павеце. Падлічана, што на тэрыторыі Беларусі ў XVII — першай палове XIX ст. існавала 55 базыльянскіх кляштараў[61].

Базыльянскі ордэн шмат зрабіў для ўмацавання ўніяцкай царквы і ўзвышэння яе культурнага ўзроўню. Адным з галоўных напрамкаў дзейнасці ордэна была асвета. Шырокую вядомасць набылі базыльянскія школы. Бліжэйшымі да Ліды навучальнымі ўстановамі ордэна, дзе маглі атрымліваць адукацыю і таленавітыя юнакі з Лідчыны, былі: “Філасофская школа” пры базыльянскім манастыры ў Барунах; “Вышэйшая тэалагічная школа” пры царкве Св. Тройцы ў Вільні; “Філасофская школа” ў Суцькаве Ашмянскага павета; “Філасофская школа” пры базыльянскім манастыры ў Жы-

[61] Кірэеў В. Р. Базыльяне // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 280.

ровіцах[62]. Базыльянскія школы давалі добрую адукацыю, што прызнавалі нават непрыхільныя да ўніі сучаснікі[63].

Базыльянскі ордэн унёс значны ўклад у развіццё кніжна-пісьмовай культуры Беларусі XVI–XVIII ст. Ён стварыў свае друкарні ў Вільні, Супраслі, Менску, Львове, Пачаеве і выдаў у іх з 1628 г. па 1800 г. кнігі 1080 назваў, з якіх каля 40% складалі свецкія выданні. Пасля скасавання ўніі ў 1839 г., базыльянскія манастыры засталіся ў Галіцыі (зліквідаваны Сталіным у 1946 г.). Але Ордэн дзейнічаў у эміграцыі. Напрыканцы 80-х гадоў XX ст. базыльяне аднавілі сваю дзейнасць у Беларусі і Ўкраіне[64].

На Лідчыне дзейнічалі два базыльянскія манастыры: у вёсках Голдава і Глушні (Глушняны). Архіепіскап Афанасій Мартас лічыў Голдаўскі мужчынскі манастыр адным з найстаражытнейшых манастыроў Беларусі[65]. Мартас згадвае таксама Глушнянскі манастыр[66]. Ён размяшчаўся каля ўрочышча "Манастырышча" (недалёка ад маёнтка Вензаўшчына). Побач, ва ўрочышчы "Царкоўшчына", да пачатку XVIII ст. *("да шведаў")* стаяла царква, якая, верагодна, адносілася да базыльянскага манастыра[67]. Захаваўся фундушавы запіс смаленскага чашніка Аўгусціна Даўгірда і ягонай жонкі Марыяны Глушнянскаму манастыру на маёнткі Глушні і Земяпішы ад 09.01.1745 г.[68] У XIX ст. ў Глушнянскім манастыры жыло 6 манахаў[69]. У 1797 г. віцэ-правінцыял базыльянскага ордэна

62 Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 269.

63 Уния в документах. Минск, 1997. С. 433.

64 Кірэеў В. Р. Базыльяне // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 280.

65 Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Минск, 1990. С. 7–6.

66 Тамсама. С. 218.

67 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 109.

68 Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Шчучынскага раёна. Мінск, 2001. С. 43.

69 Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie.Wilno, 1912. S. 269.

Сільвестр Антановіч абавязаўся ўтрымліваць конвікты (інтэрнаты, у якіх выхаванцы жывуць разам на поўным забеспячэнні) пры шэрагу базыльянскіх манастыроў, у тым ліку і конвікт на аднаго вучня ў Глушнянах[70].

У гістарачнай літаратуры згадваецца адукаваны, *"здатны да гаспадаркі і высокамаральны"* манах Антоні Сураж, які закончыў свой жыццёвы шлях у 1791 г. у Глушнянскім манастыры. Перш чым патрапіць ў Глушняны, ён вучыўся ў Быценьскім навіцыяте, з'яўляўся пракуратарам у базыльянскіх манастырах у Быцені, Вільні, Бязводзічах, Барунах, Суцькаве, Гродне[71].

Постаць аўтарытэтнага ў народзе і ордэне базыльянскага каплана Атаназа Галаўні знайшла адлюстраванне ў мастацкім творы Генрыка Ржэвускага (1791–1866) "Аповяд старца". Вось такі цуд, здзейснены А. Галаўнёй у Лідзе, падае Ржэвускі: *"Базыльяне на Літве былі моцныя. ... ён (Атаназ Галаўня — Л. Л.) ніколі не прагнуў кіраўніцтва ў сваім законе, ад уплывовых людзей уцякаў, толькі з сялянамі і ўбогімі бавіў час. ... некалі пад час голаду, што панаваў на Літве ў 1744 годзе, у Лідзе на рынку сярод дня, стос камянёў у стос боханаў хлеба знакам святога Крыжа перамяніў. Аб тым сведчылі болей за тысячу сялян і некалькі дзясяткаў шляхты, тым хлебам накормленыя"*[72].

Глушнянскі манастыр быў зачынены ў 1827 г.[73], а ўсю яго маёмасць разам з манастырскімі фундушамі перадалі лідскаму благачыннаму Гарбацэвічу і запісалі за лідскай царквой. Апошнімі ў манастыры заставаліся базыльяне — настаяцель Лаўрэнці Высоцкі і манах Ян Свірковіч, каторых са скасаваннем Глушнянскай

70 Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 319.

71 Клімаў С. Базыльяне на землях Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVIII ст. // Беларускі гістарычны агляд. 1996. Т. 3, сш. 2.

72 Rzewuski H. Opowiadania starca. T. 1. Warszawa, 1854. S. 220.

73 Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Документы, относящиеся к истории церковной унии в России. Том 16. Вильна, 1889. С. 628.

абіцелі перавялі ў Віленскі манастыр[74]. Іераманах Лаўрэнці Высоцкі адмовіўся кінуць унію, таму быў высланы на Валынь, у Загорскі манастыр, што ва Ўладзімірскім уездзе, і памёр далёка ад радзімы[75].

[74] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 147.

[75] Тамсама. С. 533.

# УНІЯЦКІЯ ПРЫХОДЫ І ХРАМЫ ЛІДЧЫНЫ

У XVII ст. уніяцкія прыходы былі створаны ў вёсках: Голдава, Жыжма, Лябёда, Мыта, Васкевічы, Вялікае Мажэйкава. Паўстанец 1863 г. М. Нарбут пісаў у сваіх мемуарах: "*Драўляныя ўніяцкія цэрквы на Лідчыне яшчэ і ў XIX ст. былі ў вёсках: Сабакінцы, Радзівонішкі, Ганчары, Збляны, Астрына, Орля, Ракавічы, Турэйск, Бабры, Глыбокае, Беліца; найбольш вядомымі былі храмы ў Дзікушках і Мураванцы*[76].

**Астрына**. У 1556 г. святары астрынскай царквы Іван Яновіч, Фёдар Антраповіч і дыякан Лагвін Апанасавіч *"били челом"* каралю Жыгімонту II Аўгусту, друйскаму старасту Станіславу Давойне і іншым *"державцом Острынским"*. Чалабітчыкі даводзілі, што іх царкве быў нададзены немалы фундуш панамі Зяневічамі — продкамі *"тивуна Виленского и державцы Ушполького, Пенявского і Радуньского Шимки Мацковича"*[77]. Праўда, праз пэўны час гэты фундуш моцна зменшыўся, і замест сямі валок пры царкве засталося толькі тры валокі зямлі. Сваёй граматай ад 4 жніўня 1556 г. Жыгімонт Аўгуст гэтыя тры валокі юрыдычна замацоўваў за Астрынскай царквой[78]. На гэту каралеўскую грамату ў 1696 г.

76 Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. 1997. № 26–27. S. 20–25.

77 Шымка Мацкавіч (памёр у 1542 г.) быў уладальнікам Астрына і Забалаці (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy. Warszawa. 1895. S. 372).

78 Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Акты, относящиеся к истории Западно-русской церкви. Том 33. Вильна, 1908. С. 51–53.



*Астрына, Спаса-Прэабражэнская царква.*
*Фотаздымак Яна Балзункевіча пачатку XX ст.*

спасылаўся пробашч астрынскай царквы св. Спаса айцец Феліцыян у сувязі з разглядам судовай справы аб нявыплаце царкве даходу з фундушавых валокаў.

У першай палове XIX ст. у Астрыне была драўляная Прэабражэнская прыходская царква, аб часе пабудовы якой звесткі адсутнічаюць[79]. На яе званіцы знаходзіўся звон з надпісам па-стараславянску[80]: ҂аѱпѕ . У 1855 г. замест старой драўлянай царквы ўзвялі новы мураваны храм.

---

79 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

80 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 111.

**Бабры.** Можна меркаваць, што менавіта ўніяцкая парафія ў Бабрах ускосна згадваецца ў крыніцы 1721 г. — судова-следчай справе духоўнага кансісторскага суда. Гэта справа была заведзена на ваўкавыскага лоўчага Казіміра Станіслава Калушэўскага. Уніяцкі мітрапаліт Леў Заленскі абвінавуціў тады яго ў гвалтоўным пераводзе сялян-уніятаў яго вёсак Нецеч, Старажымавічы і Чаплічы (паблізу ад іх знаходзіцца вёска Бабры) у рыма-каталіцтва. Сведкаў па справе пыталі, якую веру сяляне вызнавалі да таго. Тыя адказвалі, што ў вёсках жылі і каталікі, і ўніяты, была і *“схізма”* (праваслаўе), згадваюць веру пад назвай “сталітва”[81].



*Былая уніяцкая царква ў Бабрах. 2009 г.*

[81] Марозава С. В. Ваўкавыскія ўніяты. Ваўкавышчына: З гісторыі краю і лёсу людзей. Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі. Ваўкавыск, 1997. С. 63–66.

У ходзе следства высветлілася, што К.Калушэўскі і яго жонка Марыяна з Невяроўскіх фундавалі ў Нецечы касцёл і 19 жніўня 1715 г. надалі новастворанай рыма-каталіцкай парафіі фундуш: 3 валокі зямлі, 10 прыгонных сялян і карчму. Першым пробашчам парафіі стаў ксёндз Антоні, родны брат фундатара[82]. Вось тады Калушэўскія, каб новая парафія займела дастатковую колькасць вернікаў, і ўжылі "адміністрацыйныя захады" адносна ўніятаў з навакольных вёсак.

У цэнтры вёскі Бабры і сёння стаіць Свята-Крыжаўзвіжанская царква, пабудаваная з дрэва ў 1810 г. Фундатар царквы — абшарнік Карл Ляскевіч. Каля царквы пасадзілі тады дуб, які расце да гэтага часу. У 1880 г. над бабінцом надбудавалі званіцу, а пры ўваходзе зрабілі тамбур. Царква агароджана невысокім мурам, з якога найлепш захавалася фасадная частка. Храм рэстаўраваны ў 1935 г.

На царкоўным двары, на поўнач ад храма, знаходзіцца камень-следавік вышынёю 0,5 м з адбіткам жаночай ступні. Мясцовае паданне кажа, што гэты след належыць Маці Божай. Камень раней ляжаў на лузе, за царкоўнымі могілкамі. У 1920-я г. яго прывезлі да храма; мясцовы святар асвяціў гэту рэліквію[83].

Вядома, што праваслаўным святаром у 1920-я г. у Бабрах быў Александр Бяляеў. Ён распаўсюджваў сярод вернікаў беларускую газету "Крыніца", праводзіў беларускую асветніцкую працу[84].

На пачатку 1960-х г. атэістычныя ўлады зачынілі царкву і забаранілі набажэнствы. Вялікія стосы царкоўных кніг выкінулі тады ў гразь на вясковую вуліцу. Кнігі загінулі.

Царква ў Бабрах знаходзіцца сёння ў добрым стане і дзейнічае.

82 Piramidowicz D. Kościół parafialny Sw. Michała Archanioła w Niecieczy // Ziemia Lidzka 2007. № 1.

83 Лідскі Летапісец. 2000. № 9. С. 21.

84 Kuwalek R. Zycie spoleczno-polityczne ziemi Lidzkiej // Zemia Lidzka. 1997. № 25. S. 13.

**Вашкевічы**[85]. Захаваліся фрагментарныя звесткі гістарычных крыніц аб мясцовым духавенстве, напрыклад, запіс 1783 г. аб пераводзе лідскага дэкана, параха вашкевіцкага Фамы Вашчэловіча ў царкву мястэчка Вялікая Бераставіца[86]. У спісе парафій, складзеным у 1827 г., Вашкевічы чамусьці адсутнічаюць. Але ў 1833 г. ў мітраполіі разглядалася пытанне аб кандыдатуры на пасаду святара пры царкве сяла Вашкевічы[87].

**Ганчары**. Свята-Пакроўская царква ў Ганчарах была пабудавана ў 1774 г. падскарбіем Вялікага княства Літоўскага Іосіфам Салагубам[88]. У XIX ст. каля царквы ўзвялі званіцу.

Візітацыя 1792 г. адзначае, што парах Ганчарскай царквы Марцін Старынскі меў дарагі і ганаровы стол з шуфлядамі, прычым кожная шуфляда мела па мініяцюрнаму замку[89].

У XIX ст. ад мясцовых жыхароў было запісана паданне, што ў дзвюх вярстах ад сучаснай царквы, пры безназоўным раўчуку стаяла старая царква, і ў ёй знаходзіўся цудатворны абраз, нібыта вывезены ў Маскву. Сяляне паказвалі таксама і іншае месца, дзе стаяла царква — недалёка ад урочышча “Царкоўшчына” і сенажаці “Папоўшчына”[90].

Свята-Пакроўская царква ў Ганчарах дзейнічае да нашага часу і знаходзіцца ў добрым стане. Праведзены яе касметычны рамонт. Царква абвешчана помнікам архітэктуры народнага драўлянага

85 Зараз — гэта вёска Агароднікі Ганчарскага сельскага савета.

86 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 434.

87 Тамсама. С. 863.

88 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

89 Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839. Мінск, 2011. С. 88.

90 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 97.



*Былая уніяцкая царква ў Ганчарах. 2009 г.*

дойлідства. Яна стала правобразам для Свята-Елісееўскай царквы ў вёсцы Мінойты, пабудаванай ў 1997 г.

**Глыбокае**. Самыя раннія выяўленыя намі звесткі пра царкву Св. Мікалая, угодніка Божага, у Глыбокім адносяцца да XIX ст. Час яе пабудовы невядомы. Глыбоцкая (Глэмбоцкая) царква згадваецца ў "Ведомости о церквах, церковных фундушах, имениях … митрополичей литовского-виленской епархии …" за 1811 г.[91] Пры ёй была прыпісная царква на могілках ў вёсцы Гершты, заснаваная ў 1816 г. мясцовымі сялянамі[92]. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна ёсць дакумент ад 22 лістапада 1834 г.

[91] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 681.

[92] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

“Справа па прашэнні святара Глыбоцкай царквы Ядкоўскага аб перадачы касцёла скасаванага Шейбакпольскага Францішканскага кляштара ў прыхадскую Глыбоцкую царкву”[93].

**Голдава.** Маёнтак Голдава (Олдава) у канцы XVI ст. купіў ў Чартарыйскіх каралеўскі дваранін Ян Рыгоравіч Трызна. У 1613 г. яго сыны Адам і Аляксандр (будучы лідскі падкаморы) падзялілі паміж сабой бацькоўскія ўладанні. Першаму дастаўся маёнтак Лябёда (зараз вёска ў Лідскім раёне), другому — маёнтак Голдава. Голдава, акрамя панскага маёнтка, было тады мястэчкам з праваслаўнай царквой Св. Спаса, якую заснавалі і надзялілі фундушамі продкі братоў Трызнаў. У 1633 г. Аляксандр Трызна заснаваў пры Голдаўскай царкве праваслаўны манастыр. Паміраючы бяздзетным, ён запісаў маёнтак Голдава ў пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Хрысціне Швяйкоўскай[94].



*Былая ўніяцкая царква ў Голдава. 2009 г.*

У сваім тэстаменце лідскі падкаморы Аляксандр Трызна завяшчаў жонцы заснаваць у маёнтку Голдава пры царкве, дзе ён прасіў сябе пахаваць, невялікі манастыр і даручыць тую царкву з манастыром у апеку манахам віленскага манастыра Св. Духа. А за гэта ён даручыў ёй адвесці віленскім манахам 3 моргі зямлі і аддаць пляц з домам у Наваградку на Ковенскай вуліцы. Сама ж яна магла карыстацца маёнткамі, якія засталіся ад мужа, кожны год выплачваючы голдаўскім

93 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 712.

94 Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // ГЕРОЛЬД LITHERLAND. 2002. № 3–4 (7–8). С. 90.

манахам 200 злотых, а перад сваёй смерцю — яшчэ і аддаць ім у вечнае карыстанне свой фальварак або заплаціць за яго 3000 злотых.

Хрысціна выканала волю мужа часткова: перадала Свята-Духаўскім манахам 3 моргі зямлі і пляц з домам у Навагрудку. Аднак, хутка ўзяўшы другі шлюб, 200 злотых за 1634 г. не выплаціла, а пакінутыя ў спадчыну маёнткі мужа прадала. Справа дайшла да суда з віленскім манастыром[95].

У 1634 г. маёнтак Голдава выкупіў брат нябожчыка Адам Трызна разам са сваёй жонкай, княжной Альжбетай Друцкай-Горскай. У пачатку 1660-х г. Голдавам валодаў іх сын Казімір Крыштаф Трызна, які развёўся са сваёй жонкай Ганнай Ломскай і, стаўшы манахам, узначаліў Свята-Духаў манастыр у Вільні, а ў 1680 г. быў абраны праваслаўным епіскапам. У манастве ён вядомы як Клеменс (Клемент) Трызна.

У 1685 г., перад сваёй смерцю, Клемент Трызна запісаў Голдаўскаму праваслаўнаму манастыру фундуш на землі і сялян. Пасля яго Голдавам валодала яго сястра Тэадора Соф’я Трызнянка, жонка Мікалая Стэфана Паца. У 1690 г. уладальнікам маёнтка быў ужо ваўкавыскі стольнік Уладзіслаў Юрый Трызна, які памёр пасля 1714 г. Голдава апынулася ў валоданні розных застаўных пасэсараў[96], у якіх у 1718 г. маёнтак выкупіў троцкі падсудак Францішак Міраслаў Вянцковіч.

У гэтым жа годзе Ф. Вянцковіч перавёў Голдаўскі праваслаўны манастыр з царквой ва ўнію, і ў 1721 г. запісаў Голдаўскаму базыльянскаму манастыру фундуш на зямлю і сялян.

У 1762 г. маёнтак Голдава ў якасці пасагу па жонцы атрымаў скарбнік ВКЛ Антоні Важынскі. У 1791 г. маёнткам валодаў яго сын Фелікс Важынскі, які ў 1795 г. пабудаваў новую царкву Раства Багародзіцы на месцы заняпалага манастыра.

95 Макарий. История Русской церкви. Т. 5. отдел 1. глава 4. [Электронный ресурс] — Рэжым доступу: http://www.zhurnal.ru/magister/library/history/makary/mak5104.htm — Дата доступу: 07.02.2010.

96 Застаўны пасэсар лац. *possesio*) — уладальнік зямлі паводле права закладавага валодання (застаўны — закладны).

Акрамя таго, на праваслаўных Голдаўскіх могілках існавала драўляная царква святых Канстанціна і Алены, пабудаваная на сродкі мясцовага святара Канстанціна Самсонавіча Брэна ў 1867–1870 г. Яна згарэла ў 1970-я г.[97]

Такім чынам, сучасная царква Раства Багародзіцы была пабудавана ў Голдаве ў 1795 г. з дрэва на месцы манастыра. Перад царквой устаноўлена двух’ярусная шатровая званіца каркаснай канструкцыі. На званіцы прымацаваны тры званы розных памераў: вялікі 1991 г., сярэдні 1928 г.; на малым звоне дата вырабу адсутнічае. Царква і званіца — помнікі беларускага народнага драўлянага дойлідства.

Асаблівую цікавасць уяўляюць два каваныя крыжы, устаноўленыя на цыбулепадобнай галоўцы і над апсідаю. Па форме крыжоў бачна, што царква будавалася як уніяцкая — яны маюць традыцыйную нацыянальную форму. Крыжы ўніяцкіх цэркваў звычайна вылучаюцца ажурнасцю, багаццем дэкору, глыбінёй сімвалічнага зместу. Уніяцкая царква — народная царква (у канцы XVIII ст. да 80% беларускіх сялян былі ўніятамі), і таму яе атрыбутыка ўтрымлівае шматлікія элементы традыцыйнай народнай культуры. Круглы дыск на месцы перакрыжавання разам са звілістымі палоскамі (ззяннем) сімвалізуе сонца, прамяні святла. Унізе — паўмесяц, сімвал ночы. Так увасабляецца ідэя перамогі жыццестваральнай сілы Бога над цемрай, перамога дабра над злом. Тры крыжыкі на канцах вялікага крыжа сімвалізуюць Святую Тройцу[98].



*Крыж на былой уніяцкай царкве ў Голдава. 2009 г.*

[97] Брэгер Г. Гісторыя вёскі Голдава ў Лідскім раёне // ГЕРОЛЬД LITHERLAND. 2002. № 3–4 (7–8). С. 91.

[98] Лакотка А. І. Нацыянальныя рысы Беларускай архітэктуры. Мінск, 1999. С. 67.

У Голдаўскай царкве захоўваўся старажытны абраз Божай Маці візантыйскага стылю[99].

**Дэмбрава.** Драўляная царква пабудавана ў 1830 г. вернікамі[100]. 22 лістапада 1834 г. па загаду Гродзенскага губернатара касцёл у Дэмбраве быў перададзены пад уніяцкую прыхадскую царкву[101]. Вядома, што ў 1886 г. у мястэчку было 2 царквы. У першай палове XX ст. драўлянай царквы ўжо не існавала.

Праваслаўная царква св. Іаана Багаслова (XIX ст.) перавезена ў 1993 г. з вёскі Завалкі.

**Дзікушкі**. Лічыцца, што ў 1442 г. прыход ў Дзікушках ўжо існаваў. Першапачаткова тут была драўляная царква. Інфармацыя аб старой драўлянай царкве ёсць ў *"поданьи"* (перадачы) 31 ліпеня 1732 г. дзікушскай царквы і прыхода лідскаму протапрасвітару Яну Скарымскаму. Дакумент змяшчае вопіс царкоўнай маёмасці: *"Царква драўляная, з адным купалам, на ім жалезны крыж, дах нанова пакрыты гонтаю ... Срэбная чаша старадаўняй работы, пазалочаная, паламаная ... Евангелле рукапіснае старадаўняе ... Цудатворны абраз Найсвяцейшай Панны Чанстахоўскі. Царкоўная адзежа, кнігі, пабудовы (плебанія), зямля і сяляне (12 мужчын з 2 канямі і 6 валамі). Прыпісная царква — лябёдская"*[102]. 15 лістапада 1781 г. слухалася справа аб абвінавачванні дікушскага параха Антонія Свідэрскага *"в неблагоповедении"*[103]. Вядома, што на пачатку XVIII ст. дзікушскай уніяцкай царкве належыў адзін "дым" (сялянская гаспадарка).

99 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 100.

100 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

101 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 713.

102 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 68.

103 Тамсама. С. 396.



*Былая ўніяцкая царква ў Дзікушках.*
*Фотаздымак Яна Балзункевіча пачатку XX ст.*

Яшчэ ў канцы XIX ст. у царкоўнай рызніцы захоўвалася рукапіснае з кінаварру Евангелле (верагодна тое, што згадваецца ў вопісе 1732 г.). Дата напісання ў самім рукапісе не ўказана, але на срэбнай дошчачцы вокладкі пастаўлены 1587 г.

У прытворы царквы XIX ст., у раме, знаходзілася перанесеная са старой драўлянай царквы пабітая мармуровая пліта памерам 3х1,5 аршыны (1 аршын = 0,711 м) і таўшчынёй у 0,5 аршына. На гэтай пліце быў стараславянскі надпіс, тэкст якога занатаваў мясцовы настаўнік: *"Тутъ лежитъ в томъ гробе положена Марина Мартиновна М…сковича Скуминовня Тышкевичая невеста побожностью и учтивостью вшелякую часу житія своего на свете всем людям в том панстве въ 20 летъ знаемая цнот вшелякихъ христіанскихъ взоръ и образъ видомыхъ дней добрыхъ благославенства божего пана пошедши за мужъ зъ дому родичевъ своих у году 14 лет отъ нароженія своего жила у малженском стани … 42 годы по смерти мужа своего удовою годовъ 32 учтиво сво-*

„Тутъ лежитъ в томъ гробѣ положена Марина Мартиновна
...сковича Скуминовна Тышкевичам невѣста побожностью и учти-
стью вшелякою часу житія своего на свѣтѣ всѣмъ людемъ въ томъ
мѣстѣ въ 20 лѣтъ знаемая цнотъ вшелякихъ христіанскихъ взоръ
образъ видомыхъ дней добрыхъ благословенства божего пана пошедши
а мужъ зъ дому родичевъ своихъ у году 14 отъ нароженія своего
нала у малженскомъ стани... 42 годы по смерти мужа своего удо-
вою годовъ 32 учтиво своего провиденя до конаня своего о другомъ
алженствіе не мыслечи оставивши... всего потомства своего душъ
ольше 838... въ старости... не только матка маткомъ але бабкомъ
прабабкамъ маткою была дождавши працурат т. е. четвертаго по-
олѣнія своего оглядавши въ року 88 отъ нароженія своего душу свою
ъ руки Творцы Своему отдала и до фалы его святое зъ сего свѣта
редставилася у вымению отчинномъ малженка... на которомъ отъ него
тавлена была въ Дикушкахъ Року... боже нар. 1598 мца іюля
8 дня у второкъ годину 4 и въ томъ же року 98 мца сентября
дня похована при церквѣ преображенія Хрва отъ своихъ старшего
митра Скумина старосты мѣнскаго маршалка его к. мти у к. кн.
іт. писаря замковъ волостенъ украины а молодшаго Теодора Скумина
оеводы Новгородскаго старосты Городенскаго, Олитскаго, Юрборскаго и
ововольскаго

*Тэкст мемарыяльнай дошкі ў Дзікушках, усталяванай Тышкевічам*

*его провиденя до конаня своего о другомъ малженствіе не мыслечи оставивши ... всего потомства своего душъ больше 838 ... въ старости ... не только матка маткомъ але бабкомъ и прабабкамъ маткою была дождавши пращурят т.е. четвертага поколеня своего оглядавши в року 88 отъ нароженія своего душу свою въ руки Творцы Своему отдала и до фалы его святое зъ сего света представилася у вымею отчинномъ малжонка ... на которомъ отъ него оставлена была в Дикушкахъ Року божага нар. 1598 мца іюля 28 дня у воторокъ годину 4 и въ томъ же року 98 мца сентября 3 дня похована при церкве преображенія Христова отъ*

*своихъ старшего Дмитра Скумина старосты менскаго маршалка его к. мсти у в. кн. лит. писаря замковъ волостеи украины а молодшаго Теодора Скумина воеводы Новгородскага старосты Городенскага, Олитскаго, Юрборскага и Нововольскаго"*[104].

Скуміны-Тышкевічы — старажытны шляхецкі род (герба Ляліва), які прыняў прозвішча ад трэцяга сына Каленіка Мішковіча Цішкі (Цімафея), што жыў у першай палове XV ст. Унук другога сына Цішкі-Льва — Ян Тышкевіч, стараста Чарнобыльскі, меў сем дачок і двух сыноў. Яго сын Зміцер Скумін-Тышкевіч (маршалак ВКЛ, менскі стараста) быў бацькам чатырох сыноў. Разам са сваім другім сынам Тэадорам (Федарам) Скумінам-Тышкевічам ён фундаваў мармуровую дошку ў Дзікушскай царкве. Тэадор Скумін-Тышкевіч быў у 1577 г. паслом ад караля Стэфана Баторыя ў Маскве. Потым прыняў удзел у вызваленні Полацку ад войскаў Івана Жахлівага.

Першапачаткова Тэадор Скумін-Тышкевіч выступаў супраць аб'яднання цэркваў. Але потым стаў прыхільнікам уніі[105]. Мітрапаліт Макары ў сваёй "Гісторыі Рускай царквы" пісаў: *"... і наваградскі ваявода Скумін-Тышкевіч, які настолькі раней быў супраць уніі, зараз прыняў яе і зрабіўся яе заступнікам"*[106]. Дарэчы, апошнім з роду Скумінаў-Тышкевічаў быў Людвік Скумін-Тышкевіч († 1808), польны гетман ВКЛ, жанаты на сястры апошняга караля Рэчы Паспалітай Канстанцыі Панятоўскай. Людвік валодаў маёнткам Гародна на Лідчыне[107]. З яго смерцю галіна Скумінаў-Тышкевічаў спынілася.

Пасля скасавання ўніі, у Дзікушскі прыход Літоўскай епархіі, на месца, дзе раней працаваў святар Канеўскі, будучы мітрапаліт

---

104 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 101.

105 Niesiecki K. Herbarz Polski. Wyd. J. N. Bobrowicz. Lipsk, 1842. T. 9. S. 17–184.

106 Макарий. История Русской церкви. Том 5. Отдел 1. [Электронный ресурс] — Рэжым доступу: http://www.zhurnal.ru/magister/library/history/makary/mak5102.htm — Дата доступу: 07.02.2010.

107 Aftanazy, R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 122–139.

Іосіф Сямашка ўладкаваў свайго бацьку, таксама Іосіфа Сямашку, які страціў месца святара ў Кіеўскай губерні. Пасля таго, як Іосіф Сямашка-бацька прыняў праваслаўе, ён быў высвечаны ў 1840 г. у Жыровіцах на званне сабарнага протаярэя і ўзнагароджаны залатым наперсным крыжам. Сямашка-бацька разам з жонкай пераехаў на Лідчыну. Дзікушкі спадабаліся старым Сямашкам, і яны пражылі тут 15 гадоў, адсвяткавалі залатое вяселле і дажылі да 80-летняга веку. Сын-мітрапаліт наведваў іх адзін-два разы ў год[108]. Усяго ў сям'і Сямашкаў было 5 сыноў і некалькі дачок, мітрапаліт Іосіф — малодшы сын.

Прэабражэнская каменная царква была пабудавана мясцовым абшарнікам Рафаілам Грабоўскім як уніяцкая і асвечана ў 1840 г.[109] Новая царква, адразу пасля заканчэння будаўнічых прац, часова была пакрытая саломай. 26 красавіка 1842 г. загарэлася карчма, размешчаная каля царквы. Пажар хутка перакінуўся на саламяны дах храма, у якім якраз ішло багаслужэнне. Усе драўляныя часткі царквы згарэлі, выратавалі толькі царкоўнае начынне. На ўзнаўленне і ўпрыгожванне Дзікушскай царквы настаяцель зрабіў значныя ахвяраванні. Ён набыў 130 пудоў ліставога жалеза і пабудаваў новы бляшаны дах, збудаваў каменную званіцу і каменную агароджу вакол царквы. Акрамя таго, быў уладкаваны іканастас, на двух ярусах якога стаялі абразы апосталаў, прарокаў, Спаса, Тайнай вячэры, а абраз Бога Айца быў прымацаваны да столі над прастолам. Стары Сямашка быў старанным і вельмі сумленным святаром. Ён шмат зрабіў для сваёй царквы і прыхажан, быў добрым бацькам сваім дзецям[110].

108 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 419.

109 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

110 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 419–420.

Сямашка-бацька адмоўна ставіўся да ліквідацыі ўніі, а адзін з братоў мітрапаліта — гранічна адмоўна. Паспрабуем разабрацца з гэтым пытаннем.

Хутка пасля смерці мітрапаліта Іосіфа Сямашкі протаіерэй А. Мацкевіч, у *"благочинии"*[111] якога знаходзіўся прыход Паўлаўка, радзіма Сямашак (пад Кіевам), сабраў пісьменныя і вусныя ўспаміны аб гэтым родзе. Г. Я. Кіпрыяновіч у кнізе "Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского …" прывёў гэтыя звесткі. З нагоды заўвагі архімандрыта Мадэста (потым архіепіскапа Валынскага) аб тым, што "*бацька Іосіфа ахвотна прыняў праваслаўе"*, протаіерэй Мацкевіч пярэчыць*:* "*Ведаўшы яго асабіста, і пры тым блізка, магу сцвярджаць толькі зваротнае: толькі пераехаўшы ў Літву … ён стаў праваслаўным і то больш па назве"*. Далей Мацкевіч кажа, што "*фанатызм і нянавісць да праваслаўя асабліва выказваў сын протаіерэя Сямашкі, святар Ян (Иоанн) Сямашка"* (родны брат мітрапаліта)[112]. Але аб браце мітрапаліта трохі ніжэй.

У 1827–1829 гг. стары святар *"выпрабаваў шмат засмучэнняў"*. *"Раўніцелі ўніі"* абражалі яго з-за сына і пагражалі пазбавіць права на богаслужэнне (ён служыў у асобным уніяцкім алтары ў Ілінецкім каталіцкім касцёле). Кіпрыяновіч піша, што бацька таксама падазраваў свайго сына ў схільнасці да *"схізмы"*[113]. І таму стары быў у захапленні, прачытаўшы ў 1828 г. у "Віленскім весніку", што адкрытая ў Жыровіцах Літоўская семінарыя засталася ў *"злучэнні з рымскай царквой"*, а не звернутая ў *"схізму"*, як баяліся дбайныя ўніяты. Не зразумела і прычына, па якой стары Сямашка пакінуў месца службы пры сваім алтары ў касцёле:

---

[111] Царкоўная акруга на чале якой стаіць "благочинный", які назірае за дзейнасцю і маральнасцю "белага" святарства на сваёй тэрыторыі.

[112] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 414–416.

[113] Раскол (у дадзеным выпадку маецца наўвазе не з'яднаная з Рымам усходняя царква.

*“з-за непрыязнасці ксяндзоў, а можа быць і ў сілу новых, выдадзеных урадавых распараджэнняў”*. З гэтага факта, прыведзенага Г. Я. Кіпрыяновічам, можна дапусціць, што бацька галоўнага ліквідатара ўніі мог быць пазбаўлены сваёй пасады з-за таго, што не адразу прыняў палітыку сына. Стары не прыняў праваслаўнай абраднасці, якая ўводзілася ў той час ва ўніяцкай царкве. Пасля страты месца, ён падарыў сваю хату каля касцёла сыну-лекару Мікалаю і купіў іншы дом, насупраць старога, дзе зрабіў з кухні малельню, упрыгожыўшы яе абразамі. У гэтай малельні стары Сямашка правёў па ўніяцкім абрадзе шлюб сваёй дачкі Алены. Па ўспамінах відавочцаў, маладыя падчас вянчання стаялі на каленах.

Ліквідацыя ўніі была нечаканасцю для Сямашкі-бацькі. Па словах мітрапаліта Іосіфа, стары Сямашка *“нічога не ведаў папярэдне”* аб кіруючай ролі свайго сына ў гэтай справе і не спагадаў яму ў гэтым. Мітрапаліт у сваіх лістах да бацькі пераконваў яго ісці за сабой і прыняць праваслаўе. Ён даслаў свайму бацьку багатую рызу і падрызнік узамен лацінскага “габіта” (габіт — манаская рыза), які святар насіў да гэтага часу.

У пачатку 1840 г. стары святар, не маючы места працы, даў падпіску аб далучэнні да праваслаўя. Далей Сямашка-бацька старанна і добрасумленна служыў праваслаўным святаром на Лідчыне[114]. Ён памёр 17 ліпеня 1856 г. (па старым стылі). Высокапастаўлены сын у гэты час быў у Маскве на каранаванні Аляксандра II і ў пахаванні бацькі ўдзелу не прыняў. Святар Іосіф Сямашка быў пахаваны ў каменнай пячоры пад левым кліpасам Дзікушскай царквы. Над магілай была прымацавана мармуровая пліта з надпісам: “Здесь покоится тело раба Божия протоиерея Иосифа Семашко. Родился 1776 г. 20 августа. Скончался 17 июля 1856 г.”[115]. У 80-х гг. XX ст., калі царква стаяла зачыненай, злодзеі разрабавалі

114 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 417–418.

115 Тамсама. С. 422–423.

пахаванне. Парэшткі засталіся на месцы, але каштоўныя, па меркаванню злачынцаў, рэчы былі выкрадзеныя.

Інакшай была справа з родным братам мітрапаліта Іосіфа, святаром Янам Сямашкам. Аб сваім браце Ян Сямашка гаварыў так: *"пракляты: ён і сябе ўтапіў, і народ загубіў"*. Калі, аднойчы, праваслаўны святар паказаў Яну партрэт яго знакамітага брата, *"ён з шаленствам кінуў партрэт на падлогу і пры гуках пабітага шкла ўцёк"*. Паміраючы, Ян завяшчаў пахаваць сябе пры Ілінецкім касцёле, і ксяндзы былі гатовы выканаць яго волю. Але праваслаўныя святары забралі цела нябожчыка і пахавалі пры праваслаўнай царкве, чаму мітрапаліт быў рады, і даслаў ім за гэта грашовую ўзнагароду. Жонка Яна Сямашкі, дачка ўніяцкага святара, каб пазбегнуць пераводу ў пануючую веру, перайшла ў рымакаталіцтва[116].

…Маркотная гісторыя падзелу сям'і верай…

Але і для вышэйшых бюракратычных кругоў імперыі Іосіф Сямашка заставаўся чужым. У 1843 г. дзяржаўны сакратар М. А. Корф прымеціўшы, што Мікалай I не дае Сямашку асабістых аўдыенцый, выказаў здагадку, што імператар дзейнічае згодна з прынцыпам *"любяць здраду, але здраднікам пагарджаюць"*[117].

Шмат цяжкасцяў перажыў прыход ў Дзікушках у ХХ ст., аднак у 1936 і 1956 гг. у храме рабіўся капітальны рамонт.

Прэабражэнскую царкву ў Дзікушках зачынілі ў атэістычным 1961 г., і аж да 1998 г. яна пастунова прыходзіла ў запусценне.

Са зменай дзяржаўнай палітыкі адносна рэлігіі і царквы ў Беларусі, храм у Дзікушках аднавіў сваю дзейнасць. У 1999 г. на ім усталявалі новы купал з крыжам. Пасля доўгіх рамонтных прац, якія праводзіў настаяцель царквы а. Георгій Сеўрук, 10 кастрычніка

116 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 8.

117 Долбилов М., Миллер А. Западные окраины Российской империи. Москва, 2006. С.110.



*Былая уніяцкая царква ў Дзікушках. 2009 г.*

2009 г. храм быў асвечаны архіепіскапам Наваградскім і Лідскім Гурыем.

**Дакудава**. Тут з’явілася адна з першых на Лідчыне ўніяцкіх парафій. Царкву пабудаваў на пачатку XVII ст. маршалак ВКЛ Юры Радзівіл. Гэта дазволіла частцы жыхароў Дакудава выйсці з кальвінісцкага прыхода, створанага яго дзедам.

У Архіве ўніяцкіх мітрапалітаў адклаўся кампрамат на дакудаўскага параха Георгія Вяржбіцкага, які на працягу трох дзён 15–17 чэрвеня 1758 г. павянчаў незаконны шлюб (муж і жонка былі паміж сабой у другой ступені сваяцтва) і пабіўся з гусеўскім парахам Васілём Лыткоўскім[118].

[118] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 193.

У 1774 г. замест старой была пабудавана з дрэва новая прыхадская царква Раства Багародзіцы[119]. Царква, якая зараз ёсць у Дакудаве, была ўзведзена ў 1866 г. з бутавага каменю недалёка ад месца ранейшага храма.

**Жыжма** (Князюкоўцы). Да 1860 г. тут была драўляная Пакроўская царква. Самая ранняя выяўленая намі згадка пра яе датуецца 1667 г.

У тэстаменце, складзеным 4 лютага 1667 г., мясцовы шляхціц Сільвестр Война Аранскі наказвае сваім дзецям пахаваць яго ў *“Жижемской”* царкве Лідскага павета, здаўна збудаванай і *“уфундаваной”* яго продкамі, у склепе, дзе ўжо *“покоится”* прах яго жонкі. А каб у гэтай царкве заўсёды ўзносілася хвала Богу, абшарнік С. В. Аранскі запісаў на святара і царкву *“данину”* са свайго маёнтка Князюкоўцы: 2 валокі зямлі, якія ляжаць над ракой Жыжмай, званыя Татаршчына і Зарубоўшчына; *“двух подданных, сидящих на двух четвертях грунта”*, а таксама штогадовую хлебную ссыпку з маёнтка Жыжма, а менавіта — бочку жыта віленскай меры і гарнец віна.

За гэта ў царкве, як завяшчае С. В. Аранскі, павінны *“на сваём коште”* ўтрымліваць *“дьяка для пения”* і штотыдзень служыць дзве абедні за спачын душы фундатара і яго продкаў. Ён патрабуе ад сваіх дзяцей і нашчадкаў строга выконваць тэстамент, уласнымі сродкамі падтрымліваць царкву, рамантаваць, а калі дрэва згніе, то пабудаваць новую. Сваю маёмасць землеўладальнік размеркаваў пароўну паміж сынам і дачкою. Ён выказаў жаданне, каб непаўнагадовы сын Іван быў аддадзены на вучобу ў езуіцкую школу[120].

Жыжмянская царква пералічваецца ў спісе ўніяцкіх храмаў Лідчыны 1753 г., які захаваўся ў Архіве ўніяцкіх мітрапалітаў[121].

119 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

120 Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Акты Главного Литовского трибунала. Т. 12. Вильна, 1883. С. 593.

121 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.

З дакументаў гэтага ж Архіва даведваемся пра *“неблагоповедение” “жизмянскаго”* адміністратара Якуба Жухавецкага, у якім яго 7 жніўня 1780 г. абвінавачваў *“новогородицки”* адміністратар Станіслаў Пятроў[122].

У 1860 г. на месцы старой, прыйшоўшай у нягоднасць Пакроўскай царквы, кіраўнік Віленскай палаты дзяржаўнай маёмасці, сапраўдны стацкі дараднік Антон Андрэевіч Глушаноўскі на ўласныя сродкі ўзвёў новы храм з бутавага каменя ў выглядзе крыжа.

Вядома, што ў 1930-я г. у Пакроўскай царкве служыў святар Уладзімір Бука, які ў 1939 г. прыняў пакутніцкую смерць — быў расстраляны мясцовымі “змагарамі за ўстанаўленне ўлады Саветаў”[123]. Сам храм таксама зведаў людскую жорсткасць — у 1980 г. быў часткова спалены маладымі людзьм, якія ўбіралі ўраджай на вясковых палетках. Адноўленая ў 1992 г. царква дзейнічае і сёння.

**Збляны.** Драўляная Пакроўская царква была пабудавана тут у 1671 г. на месцы старой капліцы[124]. Згадваецца ў спісе ўніяцкіх цэркваў Лідчыны 1753 г.[125]

За вярсту на паўночны захад ад Зблян, каля дарогі на Парэчча, у канцы XIX ст. стаялі тры камяні рознай велічыні на адлегласці аршына адзін ад аднаго. Першы падымаўся над паверхняй зямлі на 1,5 аршына, другі — на 0,75. Трэці камень, верхняя частка якога, верагодна, была адбітая, ледзь выходзіў з зямлі. Усходні бок кожнага каменя — плоскі, і на ім высечаны васьміканцовы крыж[126].

122 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 388.

123 Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна, 2006. с.205.

124 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

125 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.

126 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 98.

У 1897 г. Віленскі губернскі царкоўна-будаўнічы камітэт прыняў рашэнне пабудаваць у Зблянах замест старой драўлянай царквы новы храм з цэглы і каменю, што і было зроблена да 1900 г.

**Лябеда**. Драўляная царква Св. Мікалая пабудавана ў вёсцы ў сярэдзіне XVIII ст.[127] *"Лебедски парох Андрей Костыцевич"*, пра якога Архіў уніяцкіх мітрапалітаў згадвае пад 1783 г., стаў вядомым нам у сувязі з абвінавачваннем у *"неблагоповедении"*[128]. Такога роду абвінавачванні (часам узаемныя), як правіла, былі звычайнай помстай нядобразычліўцаў, пакрыўджаных людзей, непрыязных калег. "Дзякуючы" гэтым абвінавачванням, папалі ў аналы гісторыі і сёння нам вядомыя імёны некаторых шараговых святароў — сумленны святар меў не шмат шанцаў у іх трапіць. Аднак абвінавачанні супраць Кастыцэвіча былі сапраўднымі. У 1797 г. інстыгатар[129] Лідскага дэканату Ян Мыслевіч абвінаваціў у амаральных паводзінах і невыкананні сваіх абавязкаў параха царквы ў Лябедзе Андрэя Кастыцэвіча. Большасць абвінавачванняў была даказана, і святара адхілілі ад службы ў царкве і адправілі на шэсць тыдняў у Лаўрышаўскі манастыр. Было вырашана, што калі рэкалекцыі і цвічэнні ў манастыры не перавыхаваюць святара, дык ён будзе адхілены ад сваіх абавязкаў назаўжды[130].

На пачатку XX ст. пабудавалі з цэглы новую царкву, якая стаіць у вёсцы і сёння. Яна бачна з шашы Ліда — Гродна.

**Маламажэйкаўская** Багародзіцкая царква-крэпасць — адна з тых трох культавых пабудоў памежжа XV–XVI ст. (другая і трэ-

[127] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[128] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 434.

[129] Інстыгатар — духоўны суддзя які адказваў за маральнае аблічча парахаў.

[130] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 136–139.

цяя — гэта Сынкавіцкі і Супрасльскі храмы-крэпасці), дзякуючы якім Беларусь увайшла ў гісторыю еўрапейскай архітэктуры. Згодна з нашымі звесткамі, яна пабудавана ў 1524 г. Фундатарам царквы лічыцца Шымка Мацкавіч.

Існуюць розныя версіі часу заснавання гэтага ўнікальнага храма. У літаратуры XIX ст. ён датаваны пачаткам XV ст. на падставе вельмі спрэчнага дакумента 1648 г., у якім гаворыцца наступнае: *“Отец Феодосий Воротынский, протопоп Лидский, до книг митрополитных, ... в Новогрудку будучи..., подал лист ограниченный церкви Мало Мажейковской Мурованой: грунтов, лесов, сеножатей, самого седлиска и прочих принадлежностей, сходно стародавнего фундуша, учиненного чрез зошлого его милости Шимка Мацкевича Шклёнского, подконюшего Виленского, державца Ушпальского, Пенянского и Радунского, наданых и належачих на тую ж церковь Мурованую, в повете Лидским лежачую и им побудованую, року 1407 мая 10 дня”*[131]. На сённяшні дзень верыфікаваць гэты дакумент не ўяўляецца магчымым. Ён выклікае сумнеў тым, што ў 1407 г. Шымкі Мацкавіча яшчэ не было на свеце. У 1542 г. ён — і гэта дакладна ўстаноўлена — зрабіў завяшчанне на карысць Маламажэйкаўскай царквы, якая да таго часу ўжо была пабудавана.

Падчас рамонту храма ў 1871–1872 гг. быў знойдзены камень з надпісам *”Христово раб Иерей Авраам, 1469 г.”*. З гэтага робіцца высноваа, што царква ў XV ст. ужо існавала, і пабудавана яна была ўдалечыні ад дарог і значных населеных пунктаў вялікім літоўскім князем Вітаўтам. Аднак невядома, як валун трапіў у царкву. Яго маглі пакласці тут у час цырымоніі перанясення астанкаў духоўнай асобы з ранейшага храма, што даволі часта тады практыкавалася. Дакладна невядома, хто фундаваў будаўніцтва. Магчыма, гэта быў князь Васіль Палубенскі, які ў 1514 г. атрымаў ад вялікага князя літоўскага Жыгімонта І пацвярджальную грамату на маёнтак Мажэйкаў[132].

[131] Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI ст. Мінск, 1993. С. 72–73.

[132] Тамсама. С. 73–74.



*Маламажэйкаўская царква абарончага тыпу. Малюнак з кнігі Бацюшкава. Цікавы тым, што на ім выява царквы да рэканструкцыі.*

На карысць больш позняга за 1407 год узвядзення Маламажэйкаўскай царквы ўскосна сведчыць яе архітэктура. Названыя храмы абарончага тыпу ў Супраслі, Сынкавічах і Маламажэйкаве, на думку беларускіх і польскіх вучоных, узведзены прыблізна ў адзін перыяд (звычайна называецца памежжа XV–XVI ст. або пачатак XVI ст.) і з'яўляюцца, па меркаванню шэрагу даследчыкаў той эпохі, вынікам і праявай распаўсюджвання ідэй Фларэнцкай уніі 1439 г. сярод уплывовай праваслаўнай эліты Вялікага княства Літоўскага[133]. Гэтыя храмы першыя ў гісторыі праваслаўнага куль-

[133] Семянчук А. А. Распаўсюджанне ідэй Фларэнцкай уніі ў Вялікім княстве Літоўскім ў канцы XV — пачатку XVI ст. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. — Гродна : ГрДУ, 2009. — С. 162.

тавага будаўніцтва ў Беларусі спалучылі ў сабе рысы візантыйскага тыпа і заходнееўрапейскай готыкі, што стала магчымым дзякуючы жывучасці ў ВКЛ традыцый уніі 1439 г.

Гісторык Ю. Ядкоўскі, які па даручэнню Маскоўскага археалагічнага таварыства даследаваў Маламажэйкаўскую царкву ў 1913 г., датаваў яе першай паловай XVI ст. З ім быў згодны беларускі мастацтвазнаўца М.М. Шчакаціхін. Спецыяліст па абароннаму будаўніцтву на Беларусі ў XVI–XVIII ст. М.А. Ткачоў таксама датаваў храм першай паловай XVI ст. — паміж 1516 і 1542 г.[134]

Дойлід, які будаваў царкву, быў не толькі добрым архітэктарам і фартыфікатарам, але таксама і таленавітым мастаком-дэкаратарам. Вытанчаным малюнкам характарызуецца сістэма гатычных зводаў збудавання. Круглае вакно над уваходам — прыём, звычайны для культавых пабудоў гатычных і раманскіх храмаў. У аснову дэкора галоўнага фасада царквы пакладзена чаргаванне нішаў розных абрысаў і велічыні. Па задуме дойліда, на франтоне царквы павінны бялець толькі нішы, якія сваім белым колерам раней выразна кантраставалі з чырвоным фонам цаглянай муроўкі. Колеравыя кантрасты, пластыка франтона, гарызантальныя цягі на фасадах і ярусах храма сведчаць пра з'яўленне ў беларускім дойлідстве пачатку XVI ст. элементаў рэнесанснай архітэктуры[135].

Верагодна, з XVII ст. царква становіцца ўніяцкай.

За сваю доўгую гісторыю Маламажэйкаўская царква зведала шмат выпрабаванняў. Падчас вайны сярэдзіны XVII ст. Расіі з Рэччу Паспалітай, у 1656 г., была моцна пашкоджана. Але праз некалькі гадоў царкву аднавілі. У 1706 г. шведскае войска Карла XII, ідучы на Палтаву праз Жалудок, абстраляла па загаду караля царкву, якая здзівіла яго сваім незвычайным выглядам. Пасля гэ-

134 Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI ст. Мінск, 1993. С. 75.

135 Лакотка А. І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999. С. 175.

тага царква моцна запусцела. У інвентары 1804 г. ёсць запіс аб яе занядбаным выглядзе.

Адноўлена Маламажэйкаўская царква была, па адных крыніцах, у 1817 г., па іншых, у 1822 г., ужо як праваслаўны храм. Тады перарабілі верхнюю частку франтонаў і адрамантавлі дах. Больш значныя змены аблічча храма зведала пры перабудове 1871–1872 г. Заходнія вежы дабудавалі на сажань вышыні, у адной з іх уладкавалі званіцу. Да заходняга фасаду прыбудавалі прытвор. Ва ўсходніх вежах зніклі драўляныя лесвіцы, была замуравана частка байніц, знялі герсы над жалезнымі дзвярыма, якія апускаліся пры небяспецы.

У час чарговага рамонту змянілі інтэр'ер храма — у яго перадалтарнай частцы пабудавалі сцяну, якую, аднак, у часы другой Рэчы Паспалітай разбурылі. У XIX ст. храм абнеслі агароджай.

У сярэдзіне XVIII ст. у Вялікім Мажэйкаве яго ўладальнікі Чапскія пабудавалі ўніяцкую капліцу, як філію Маламажэйкаўскай царквы. Калі храм-крэпасць прыйшоў у заняпад, капліца замяняла яго. Яе закрылі падчас ліквідацыі царкоўнай уніі ў першай палове XIX ст. Ад капліцы не засталося нават слядоў, і нам невядома, дзе яна размяшчалася ў вёсцы[136].

Дастаткова цікавую, аднак, верагодна, тэндэнцыйную інфармацыю аб Маламажэйкаўскай царкве знаходзім у дадатку да кнігі П. М. Бацюшкава “Белоруссия и Литва”. У перакладзе С. Судніка гэта інфармацыя выглядае наступным чынам: “*Маламажэйкаўская царква збудаваная ў 1407 г. падканюшым віленскім, дзяржаўцам ушпольскім, пенянскім і радуньскім панам Шымкам Мацкевічам-Шклёнскім. Характэрная архітэктура яе, якая нагадвае сярэднявечныя замкавыя будынкі, наводзіць на думку, што храм гэты быў не толькі домам малітвы, але і абаронай і сховішчам людскога скарбу ў былы час спустошальных войнаў і рабаванняў. Сцены царквы, складзенай з моцнай, як жалеза, цэглы, — у сажань*

[136] Круцікаў У., Лаўрэш Л. Гісторыя парафіі ў Ішчалне // Наша Слова. 2005. 15 чэрвеня.

*таўшчыні; па вуглах яе ўладкованыя спічастыя вежы, у якія былі праведзеныя з царквы спіральнымі каменнымі лесвіцамі адмысловыя хады, знішчаныя ў 1817 г. разам з патаемным ходам і такімі ж адтулінамі ў сценах; пад царквой былі ўладкованы два склепы; уваход у царкву абараняўся цяжкавагавымі жалезнымі дзвярамі, якія апускаліся на ланцугах з нішы, зробленай у сцяне; на жаль, гэтыя дзверы не захаваліся, быўшы самавольна прысвоеныя "патронам" царквы, мясцовым абшарнікам Казімірам Кастравіцкім. Па аповядах старажылаў, шведы бамбардзіравалі царкву падчас стаянкі Карла XII лагерам у мястэчку Жалудку.*

*Гістарычныя лёсы Маламажэйкаўскай царквы мала вядомыя. Старажытныя дакументы аб ёй былі спаленыя абшарнікам Кастравіцкім у XVIII ст.; засталіся толькі больш познія дакументы і мясцовае паданне. Паводле гэтых звестак аказваецца, што з абнародаваннем ўніі Маламажэйкаўская царква была захопленая ўніятамі і з таго часу падпала пад скажэнні лацінскімі новаўвядзеннямі, пазбавілася большасці вернікаў, якія перайшлі ў каталіцызм, і прыйшла ў спусташэнне і жабрацкі стан. Як царква ўніяцкая яна не пазбавілася ад нападу і спусташэння з боку казакоў. Паны-патроны і самі базыліяне замест ахоўвання святыні і павелічэння яе дабрабыту абрабавалі царкву ў рухомай і нерухомай маёмасці. Асабліва абуральныя былі ўчынкі згаданага вышэй "патрона", абшарніка Кастравіцкага. Пачуўшы, што настаяцель Пётр Афанасевіч знайшоў у дамавіне заснавальніка царквы Шымкі Мацкавіча шмат золата, Кастравіцкі з лютасцю прыступіў да святара, жадаючы прысвоіць сабе ўяўны скарб; але сустрэўшы адмову, ён пачаў катаваць жонку святара, якая, па адных звестках, памерла ад катавання, па іншых — была задушаная служкаю пана; калі ж муж памерлай адправіўся да пана прасіць літасці сабе і сваім дзецям, то Кастравіцкі пад выглядам пачастунка напаіў святара дап'яна, адвёў на стайню і, пасадзіўшы яго на ланцуг, загадаў яму вучыць казла спяваць так, як спяваюць у царкве. Абуральная сцэна працягвалася цэлую ноч. Тым часам гаспадарка святара падвергнулася рабаванню панскай*

*чэлядзі. Няшчасны айцец Пётр не вытрымаў і, прахварэўшы некаторы час, сканаў 19 красавіка 1794 г. ад голаду і холаду.*

*Пасля смерці святара Афанасевіча “патрон” Маламажэйкаўскай царквы Кастравіцкі пачаў адносіцца да падапечнага яму храма па-свойму. Паставіўшы ў царкве арган, ён запрасіў кармелітаў і прымусіў іх прапаведаваць, што веры праваслаўнай няма ва ўсім свеце, што ўнія паглынутая лацінствам, што толькі рымская царква і кіраўнік яе могуць адчыніць дзверы ў Царства Нябеснае. Потым ён выбудаваў супраць царквы велічны касцёл для прыцягнення ў яго сялян, але апошнія не вырашаліся пакінуць свой храм і славянскую абраднасць богаслужэння.*

*Падчас праезду імператара Аляксандра Паўлавіча з Вільні ў Гародню гасудар заўважыў убаку царкву і пажадаў агледзець яе. Гэта была Маламажэйкаўская царква, якая глыбока ўразіла цара сваім маркотным і жабрацкім станам. Васпан загадаў неадкладна рамантаваць царкву і нагляд за гэтым даручыў слонімскаму абшарніку Юндзілу. Наказ гэты застаўся, аднак, не выкананым, і пакуль збіраліся і надумваліся прыгатаваць матэрыялы, царкоўны дах абрынуўся ад удару маланкі ў алтарную частку. Гэта было ў 1805 г.; толькі праз пяць гадоў паправілі дах, але ўнутранасць царквы засталася без усякіх выпраўленняў, і нават рамы ў вокны не былі ўстаўленыя.*

*Поўнае аднаўленне старажытнага Маламажэйкаўскага храма і прыстасаванне яго пад звычаі праваслаўнай царквы належыць ужо бліжэйшаму да нас часу. Адрамантаваная з вонкавага боку і ўсярэдзіне, яна асвечаная 21 студзеня 1873 г. У іканастасе яе ў ліку абразоў знаходзіцца старажытны абраз Божай Маці, гісторыя якога характарызуе адносіны палякаў да рускіх святынь.*

*У сяле Воўчынках знаходзілася драўляная царква з трыма валокамі зямлі, якія належаць да яе. Самога прыходу ўжо не існуе, а зямля прысвоеная мясцовым абшарнікам. Настаяцель Маламажэйкаўскай царквы айцец Леў Савіцкі з дакументаў даведаўся, што ў Воўчынскай царкве знаходзіўся, між іншым, абраз Божай Маці ў срэбнай рызе з малюнкам месяцавага паўкола ў пад-*

*ножжы, а адна жанчына яму сказала, што абраз знаходзіцца ў мясцовага абшарніка, "у цёмным і смуродным месцы". Жадаючы выбавіць праваслаўную святыню з ганебнага становішча, святар адправіўся да абшарніка, але той адказаў, што абраза ў яго няма. Калі ж маёнтак быў здадзены ў арэнду шляхціцу, і апошні задумаў прадаць некаторыя будынкі, то святар паслаў двух сваіх вернікаў з той мэтай, каб яны, пад выглядам куплі будынкаў, пашукалі абраз. Вынік атрымаўся самы спрыяльны: абраз знайшоўся ў свіране. З гонарам ён быў ўзяты і перанесены ў Маламажэйкаўскую царкву. Гэта адбывалася ў 1868 г.*

*Не лішне дадаць, што царква ў Воўчынках прададзена за нікчэмную суму габрэям на лазню і перавезена імі ў мястэчка Васілішкі, а цвінтар царкоўны аддадзены пад каталіцкія могілкі"*[137].

У канцы XIX ст. аб цудам захаваным старажытным абразе Божай Маці і аб знаходцы скарбу срэбных і залатых манет пад адной з вежаў Маламажэйкаўскай царквы пісаў дырэктр Віленскага музея старажытнасцей археолаг Ф. В. Пакроўскі[138].

**Мыто**. Мытлянская Пакроўская драўляная царква была спалена ў 1658 г. падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай. У дакументах Трыбунала Вялікага княства Літоўскага — вышэйшай судовай установы дзяржавы — ёсць дзве справы аб забойстве ў 1671 г. святара Мытлянскай царквы Багдана Варатынскага: *"наезд на цвинтару и пострелене през пана Яна Шостака небощика отца Воротинского, ... иж пан Шостак едучи с места Лида за его милостью паном судьёй земским Лидским ... через Мыто без данья жадное причины небощика ... на цвинтару при церкви ... в руку правую подстрелил, с которого подстреленья тот небощик ...*

[137] Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. СПб., 1980. Дадатак В. Виды местностей и зданий. С. 129.

[138] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 100.

*с сего света сшол ... пан Шостак ... подстрелил, а пан Бокгатко помочником был ...”*[139].

У рапарце ад 1800 г. адзначана, што святара царквы ў Мыто Тамаша Славуту варта часова адхіліць ад богаслужэння з-за *“дэфекту калтуна”* на які ён захварэў[140].

Яшчэ ў канцы XIX ст. у Мытлянскай царкве захоўваўся старажытны абраз візантыйскага стылю памерам 5х3 вяршкі[141] з выявай Божай Маці, званы ў народзе “Калыхаўскі”, або “Калышэўскі”. Назву вернікі тлумачылі з’яўленнем абраза з ракі Дзітва. Паводле мясцовага падання, ікона, плывучы па рацэ, калыхалася[142].

У 1866 г. на месцы старой і абвятшалай драўлянай царквы ў Мыце пабудавалі новую з бутавага каменю і цэглы.

**Нагародавічы**. Царква Святога Мікалая. Вёска Нагародавічы ў XVI–XVII ст. — уласнасць сям’і Вельямінаў-Руцкіх. “Слоўнік геаграфічны…” піша, што тут адбыўся першы з’езд уніяцкай капітулы пад кіраўніцтвам мітрапаліта Іосіфа Руцкога. Першая драўляная царква была таксама пабудавана мітрапалітам Руцкім, аб чым сведчылі дакументы, якія знаходзіліся ў царкве яшчэ на пачатку XX ст. Пра царкву “Слоўнік геаграфічны…” паведамляе, што да перабудовы 1894 г. яна захоўвала свой першапачатковы выгляд[143]. У сучасных крыніцах напісана, што царква пабудавана ў 2-й палове XIX ст. Трохзрубны храм складаецца з прамавугольных у плане прытвора і малітоўнай залы і пяціграннай апсіды з бакавой рызніцай. Архітэктурная выразнасць храма дасягаецца сродкамі аб’ёмнай кампазіцыі, яе пласторавым і ярусным нарас-

139 Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Т. 15: Декреты Главного Литовского трибунала. Вильна, 1888. С. 283, 313.

140 Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839. Мінск, 2011. С. 102.

141 Вяршок — старажытная мера даўжыні, роўная 4,44 см.

142 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 96.

143 Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego… Warszawa. 1895. T. 14. S. 558.

таннем да вертыкальнай дамінанты — ад нізкага прытвора да высокага цэнтральнага зруба і, нарэшце, да паліганальнай апсіды і нізкай рызніцы.

Гісторык Жуковіч П. Н., цытуючы першага біёграфа мітрапаліта Руцкога, Рафаіла Корсака паведамляў: *"Руцкі прыйшоў да думкі пра неабходнасць больш трывалай пастаноўкі ўсей справы ўладкавання жыцця манахаў, каб пасля яго смерці справы не прыпыніліся. З гэтай мэтай ён склаў устаў Базыліянскага ордэна і на Нагародавіцкай кангрэгацыі палажыў заснаванне самага ордэна"*[144]. І далей: "*Як вядома, толькі да часу першай (Нагародавіцкай) базыльянскай кангрэгацыі 1617 г. Руцкі напісаў ... першы том правілаў манаскага жыцця"*[145].

У дакуменце ўніяцкай царквы 1824 г. "О средствах умножения в Греко-униатском духовенстве прсвещения" ёсць такі урывак: *"Каля 1615 г. уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі задумаў даць іншае ўладкаванне цэлай рускай іерархіі і ў ёй адукацыі духавенства. ...Таму па радзе езуітаў і па узору іх ордэна ён даручыў ордэну базыльянаў клопат аб свецкіх вучылішчах і на гэта атрымаў дазвол у папы Паўла V. 3 снежня 1615 г. ...мітрапаліт завёў такія вучылішча, а ў 1617 г. яны ужо былі ў Наваградку і ў Мінску, як сведчыць пра гэта першы базыльянскі сход які адбыўся ў Навагародзічах (тут памылка — Нагародавічах, — Л. Л.)"*[146]. Цалкам матэрыялы Першай Нагародавіцкай кангрэгацыі надрукаваны ў Т. 12 "Археографического сборника документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа"[147].

---

144 Жукович П. Н. Жизнеописание митр. Иосиф Вельямина Рутского, составленное митр. Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутского об улучшении внутреннего строя униатской церкви / П. Н. Жукович // Хрисианское чтение. — 1909. № 8–9. С. 1099.

145 Тамсама. С. 1102.

146 АВАК. Т. 16. Вильна. 1889. С. 521.

147 Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1900. Т. 12. С. 7–16.

У купчай ад 26 кастрычніка 1635 г., якая была састаўлена пры продажы мітрапалітам Руцкім фальварка Нагародавічы Яну Булгаку, напісана: *“в держанье ... подали есьмо фольваркъ нашъ, ... зъ церковью въ томъ фольварку, до которое церкви и грунту придано волокъ пулторы, то есть: подъ свещенником волока одна, а под подданымъ его полъ волоки, которая то церковь вечными часы застовати маетъ...”*[148].

Неабходна сказаць і пра яшчэ адну сакральную пабудову ў Нагародавічах, пра якую піша “Слоўнік геаграфічны…” — старажытны касцёл у стылі італьянскага барока пабудаваны ў XVI ст. Першапачаткова гэта быў кальвінскі збор (айцец мітрапаліта Іосіфа Руцкога — Фелікс Руцкі быў кальвіністам, і будучы мітрапаліт ў маладосці менавіта з кальвінізму перайшоў у ўнію). З часам касцёл быў закінуты іператвораны у склад, а часткова ў жылыя памяшканні і атрымаў назву “скарбец”. Згодна з “Слоўнікам геаграфічным…”, у варшаўскім часопісе “Каласы” за 1871 ці 1872 гг. друкаваліся малюнкі з выявамі “скарбца”[149]. Нажаль, часопіса пакуль знайсці не атрымалася. Можна меркаваць, што малюнкі ўладальніка маёнтка, мастака Вікенція Дмахоўскага, друкаваліся ў артыкуле Е. Хлапіцкага “Малюнкі з тэкі падарожнай” у 1869 г.[150].

Дакладна вядома, што да 1939 г. “скарбец” яшчэ існаваў, бо гісторык і краязнаўца Антон Грыжайла-Прыбытка ў 1936 г. пісаў пра: *“жылы панскі дом з лістоўніцы, пабудаваны Тызенгаўзам ў сярэдзіне XVIII ст. і добра захаваны “скарбец” — былы кальвінскі збор і касцёл з паловы XVI ст., верагодна пабудаваны Руцкім… У 1569 г. перад Люблінскай уніяй тут быў праведзены з’езд дысыдэнтскіх біскупаў”*[151].

---

148 АВАК. Т. 11. Вильна. 1880. С. 114.

149 Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego… Warszawa. 1895. T. 14. S. 558.

150 Chlopicki E. Kartki z teki podróżnej // Klosy. 1869. № 9.

151 Antoni Grzymała-Przybytko. Krótki przewodnik turystyczny po powiatach Lidzkim i Szczuczyńskim. Lida. 1936. S. 30.

**Орля**. Стараннямі гетмана ВКЛ Крыштафа Радзівіла, князя на Біржах і Дубінках, у 1634 г. Орля атрымала права выбіраць войта і лаўнікаў, праводзіць раз на тыдзень кірмаш і іншыя правы, што набліжала яе да мястэчкаў з магдэбургскім правам. Орля мела свой кальвінскі збор — значыць, яе закрануў рэфармацыйны рух, які, аднак, у першай палове XVII ст. згасаў сам па сабе і пад ціскам контррэфармацыі. На пачатку XVII ст. у Орлі ўжо не было свайго пратэстанцкага пастыра, бо амаль не засталося вернікаў. Час ад часу для набажэнства сюды прыязджаў святар з Падляшша.

У 1726 г. па загаду луцкага епіскапа ў кальвіністаў забралі звон (магчыма за даўгі). У 1732 г. кальвіністы яшчэ валодалі зборам, але ў 1754 г. яго ў Орлі ўжо не было. На яго месцы паўстала ўніяцкая парафія, якая ў 1775 г. налічвала 2488 вернікаў (1249 мужчын і 1239 жанчын)[152]. Праўда, уніяцкая царква ў Орлі згадваец-



*Орля. Фотаздымак Яна Балзункевіча пачатку XX ст.*

152 Słownik geograficzny królestwa Polskiego. Warszawa, 1886. T. 7. S. 583.

ца ўжо пад 1753 г.[153] Ёсць звесткі аб пабудове ў вёсцы драўлянай Пакроўскай царквы ў 1783 г.[154]

У канцы XIX ст. на званіцы Арлянскай царквы знаходзіўся звон 1665 г. з надпісам на нямецкай мове. Верагодна, гэта быў былы пратэстанскі звон. Але ў народзе хадзіла легенда аб тым, што гэты незвычайны звон быў знойдзены ў Нёмане разам з жонкай святара — тапельніцай[155].

У 1866 г. у межах шырока разгорнутага ў Беларусі па загаду віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва праваслаўнага культавага будаўніцтва, замест драўлянай царквы ў Орлі пабудавалі новую царкву з бутавага каменю.

**Ракавічы**. Самыя раннія звесткі аб царкве Раства Багародзіцы ўзыходзяць да 1515 г., калі пад храм была адведзена зямля і на ёй збудавалі драўляную царкву. Ішлі дзесяцігоддзі і стагоддзі, храм прыходзіў у нягоднасць. Таму ў 1754 г. мясцовы абшарнік Макрыцкі фундаваў пабудову новай драўлянай царквы. У ёй захоўваўся абраз найсвяцейшай Багародзіцы з надпісам на грэцкай мове, які, паводле падання, з'явіўся на грушы ў садзе Макрыцкага, *"дзе і была першачаткова пабудаваная царква",* і лічыўся цудадзейнам[156].

1876 г. адзначаны з'яўленнем новага царкоўнага будынка, які, струхлелы, у 1910 г. быў заменены на цагляны.

---

153 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.

154 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

155 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 102.

156 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

**Радзівонішкі**. Царква Св. Ганны была пабудавана з дрэва “дзедічам” — законным спадчыннікам і гаспадаром маёнтка ў Радзівонішкі Халхоўскім у 1696 г.[157]

Архіў уніяцкіх мітрапалітаў захаваў толькі асобныя фрагменты з гісторыі гэтай парафіі. Дакументы 1725 і 1748 г. прыводзяць факты неналежнага выканання святарскіх абавязкаў: адпаведна Янам Герасімовічам і Стэфанам Паплаўскім (невыкананне ўмоў утрымання фундушу, з’яўленне ў прыход без *“презенты”* (дазволу) калятара[158], пропускі набажэнстваў) і строгага рэагавання на гэта духоўнага начальства[159]. Напэўна, і іх нядбайнасцю царква ў XIX ст. прыйшла ў поўны заняпад і была разабрана.



*Царква ў Радзівонішках.*
*Фотаздымак Яна Балзункевіча пачатку XX ст.*

157 Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

158 Калятар — асоба, якая ўнесла сродкі на пабудову царквы, касцёла і мае адпаведнае права адносна яе.

159 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 86, 124.

У студзені 1797 г. інстыгатар Лідскага дэканату Ян Мыслевіч разбіраў справу пра “цуд”, які адбыўся ў Радзівонішскім прыходзе, якім кіраваў адміністратар[160] царквы Палікарп Хазановіч. Хазановіч абвінавачваўся ў тым, што ён ці яго падначалены прымацаваў на ліпе, якая расла на могілках каля царквы, абраз Найсвяцейшай Панны Чанстахоўскай. Потым, зняўшы кару, абраз усталявалі ў дрэва, так, як быццам ён цудоўна там з’явіўся, пра што было разгалошана людзям і “цудоўнаму” абразу пачалі публічна чыніць “чэсць”, а потым усталявалі яго ў царкве. Адміністратар пакляўся, што ні ён сам, ні яго падначалены не займаліся падманам, пра цуд нікому не казалі і не ведаюць, хто здзейсніў гэтую справу. Хазановіч быў прысуджаны падчас кангрэгацыі Лідскага дэканату прасіць прабачэнні у інстыгатара, супраць яго ён зласловіў, а потым, пачынаючы з 15 лютага — да рэкалекцый пры царкве дэкана Гарбацэвіча ў Моўчадзі[161].

У Радзівонішках частку жыцця правёў актыўны дзеяч Камісіі нацыянальнай адукацыі, навуковец, ксёндз, перакладчык, аўтар першага польскамоўнага падручніка логікі Казімір Нарбут. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай ў 1795 г., ён адышоў ад грамадскага жыцця і падаўся на Лідчыну, у Радзівонішкі, у маёнтак свайго брата Дамініка. У сваёй кнізе “Казімір Нарбут” прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова на гэты конт піша наступнае: *“У гэтыя гады нацыянальнай паразы Нарбут вырашае таксама адмовіцца ад пасады пробашча, як у Радзыміне, так і ў Лідзе, пакідаючы толькі тытулярную годнасць парадыскага абата ...*

*Радзівонішкі, якія павінны былі стаць жыццёвым прыстанкам Казіміра Нарбута, знаходзяцца недалёка ад Ліды і ракі Дзітвы. Засмучаны ходам палітычных падзей, пазбаўлены веры і ўсялякіх аўтарытэтаў, 57-гадовы ксёндз вырашыў правесці рэшту свайго працавітага жыцця ў цішы братавага маёнтка. І так сталася, што гэтаму рашэнню ён быў верны 12 гадоў, г. зн. да часу сва-*

160 Калі царква поўгода не мела параха, для часовага кіравання ёй прызначаўся адміністратар.

161 Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 128–129.

*ёй смерці. Адзіным выключэннем быў выезд у Ліду ў 1801 годзе, каб асвяціць краевугольны камень пад касцёл, які меліся будаваць піяры. Гэта было цалкам зразумела, таму што Нарбут, нягледзячы на секулярызацыю, заставаўся ў вельмі добрых адносінах са сваімі ордэнскімі братамі, дапамагаючы ім у розных абставінах .... Але гэта было ўжо мінулае, да якога ён не хацеў вяртацца. Што ён рабіў у маёнтку брата, невядома, але мы можам здагадацца. Напэўна, заняўся гаспадаркай. Біёграф Антоні Машынскі, піяр, запісаў толькі, што Казімір Нарбут пасля кароткай хваробы, у здаровым розуме, пасля прыняцця святых таінстваў памёр у Радзівонішках 17 сакавіка 1807 года. Ён быў пахаваны ў папярэдне падрыхтаваным адзенні святара "ў склепе ўніяцкай царквы", якая знаходзілася на тэрыторыі маёнтка"*[162].

Слядоў магілы Казіміра Нарбута, як і слядоў уніяцкай царквы, у крыпце якой ён быў пахаваны, не захавалася.

У 1895 г. ў вёсцы ўзвялі новы, з цэглы і бутавага каменя, будынак царквы Ўспення Прасвятой Багародзіцы непадалёк ад таго месца, дзе на 200 гадоў раней паўстала ўніяцкая царква Св. Ганны.

**Сабакінцы** (зараз — вёска Першамайская). Паводле народнага паддання, сваю назву мястэчка атрымала ад размешчанай тут каралеўскай псарні (сабакінцы — псары). Невялікая парослая лесам горка ў некалькіх вярстах ад мястэчка называлася "Каралеўскай дубровай". Падданне гаворыць, што тут, па дарозе на паляванне, спыняўся кароль[163].

У пачатку XIX ст. у мястэчку стаяла драўляная Свята-Пакроўская царква, пра час пабудовы якой звестак не захавалася. Аднак звон на царкоўнай званіцы са зробленым на ім лацінкай надпісам датаваўся 1506 годам[164].

162 Стасевіч-Ясюкова І. Казімір Нарбут. Варшава — Ліда, 2004. С. 65–66.

163 Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 109.

164 Тамсама. С. 110.

У царкве знаходзілася яшчэ адна рэліквія — цудадзейны абраз найсвяцейшай Багародзіцы на халсце, прымацаваным да дошкі. У пачатку XVIII ст. на гэтым абразе з’явілася срэбная дошчачка, ахвяраваная царкве каралём Станіславам Ляшчынскім, з польскамоўным надпісам на ёй: “Najjasniejszy Stanisław Leszczynski król Polski przybywszy do Cudownego Obrazu Matki Najswietszey w Sabakinach pieszo — takowe wotum ofiarował roku 1705” (“Яго Вялікасць, кароль Польскі, прыбыўшы пешшу да цудатворнага абраза Божай Маці у Сабакінах, зрабіў гэтае прынашэнне ў 1705 г.”[165]).

Храм з бутавага каменю і цэглы, які сёння стаіць у Сабакінцах, быў пабудаваны ў 1830 г.

**Турэйск**. Царква Св. Мікалая, згодна з інфармацыяй крыніц, якія захоўваліся ў ёй яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., існавала ўжо ў 1630 г. Дакладны час яе заснавання невядомы. Гэта быў драўляны будынак на каменным падмурку, які ў 1820 г. аднавіла абшарніца Янкоўская[166]. Аўтар кнігі “Материалы для географии и статистики…” трошкі памыляецца, бо ў архіўнай справе ад 30 кастрычніка 1834 г. напісана : “*Па загаду ... Губернатара Гродзенскага аб новай царкве, якая знаходзіцца ў вёсцы Турэйск, на яе пабудову ... Лідскага павета памешчыкамі Янкоўскай і Макрэцкім, дадзена 6000 злотых”*[167].

Гісторык Ф. В. Пакроўскі пісаў, што *“ўзвышаная мясцовасць, на якой пабудавана Турэйская царква, указвае на сляды штучнай планіроўкі, што несумненна вынікае з назіраемых дагэтуль двух равоў, з усходняга і заходняга боку царквы. На цвінтары знаходзіцца шмат камянёў са старымі надпісамі, а на прасторы паміж царквой і сялом часта трапляюцца косці і старадаўняя срэбная і мед-*

[165] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 549.

[166] Тамсама.

[167] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 703.



*Турэйск, Свята-Мікалаеўская царква.*
*Фотаздымак Яна Балзункевіча пачатку XX ст.*

*ная манета, некалькі асобнікаў якой павінна захоўвацца ў мясцовага святара"*[168].

Будынак сучаснай Турэйскай царквы быў пабудаваны з каменю ў 1875 г.

* * *

Згодна з "Ведомостью о греко-унияцких церквах и монастырях Бресткой епархии" за 1827 г., у Лідскім павеце дзейнічала 18 уніяцкіх цэркваў і адзін манастыр (Голдаўскі), якія разам мелі

[168] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 102.

22 496 прыхаджан. Лідская царква Св. Міхаіла аб'ядноўвала ў 1837 г. 306 прыхаджан[169]. Паводле статыстыкі 1838 г., Ганчарскую царкву наведвалі 1230 вернікаў-уніятаў, да Глыбоцкай было прыпісана 1872 чалавекі, да Голдаўскай — 1047, Дзікушскай — 614, Дакудаўскай — 922, Жыжмянскай — 725, Лябёдскай — 812, Зблянскай — 1135, Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) — 497, Мытлянскай — 272, Арлянскай — 1400, Астрынскай — 3327, Ракавіцкай — 630, Сабакінскай — 1379, Турэйскай — 947, Баброўскай — 417, Дэмбраўскай — 853[170]. Згодна з хронікай касцёла вёскі Ішчална, у 1801 г. прыход грэка-каталіцкай капліцы ў Вялікім Мажэйкаве налічваў 1300 чалавек[171].

Да нашага часу на Лідчыне захаваліся і дзейнічаюць як праваслаўныя былыя ўніяцкія цэрквы: Голдаўская (пабудавана ў 1795 г.), Баброўская (год пабудовы — 1810 г.), Ганчарская (пабудавана ў 1774 г.). Матэрыялізаваным ўвасабленнем ідэй Фларэнційскай уніі 1439 г. на беларускіх землях стала архітэктура знакамітай Маламажэйкаўскай гатычнай царквы абарончага тыпу, якая ў XVII–XIX ст. працяглы час дзейнічала таксама як уніяцкі храм.

169 Radwan, M. Carat wobec kosciоła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim 1796–1839. Roma — Lublin, 2001. S. 232.

170 Палуцкая С. В. З гісторыі ўніяцтва на Лідчыне // Наш радавод. Ліда, 1993. С. 67.

171 Круцікаў У., Лаўрэш Л. Гісторыя парафіі ў Ішчалне // Наша Слова. 2005. 15 чэрвеня.

# РЭФАРМАВАННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ ЎНІЯЦКАЙ ЦАРКВЫ

Урадавы наступ на ўнію пачаўся ў хуткім часе пасля далучэння Беларусі да Расіі. Але шэраг абставінаў, у тым ліку супраціўленне ўніятаў знішчэнню іх веравызнання, забяспечыў іх царкве яшчэ амаль шэсць дзесяцігоддзяў існавання. У 1827 г. Іосіф Сямашка склаў план ліквідацыі Ўніяцкай Царквы і падаў яго расійскаму ўраду, які ацаніў яго старанні і стаў рыхтаваць Сямашку на мітрапалічны пасад. Галоўным было максімальна адарваць уніятаў ад рыма-католікоў (быў забаронены ўступ у базыльянскі ордэн рыма-католікам, створана самастойная Грэка-ўніяцкая духоўная калегія). Пачалі з ачышчэння ўсходняга абраду ад лацінскіх запазычанняў. Разам з уводзінамі праваслаўных літургічных кніг, гэта прывяло да збліжэння ўніятаў з праваслаўем. Смерць чатырох уніатскіх епіскапаў, якія не жадлі "ўз'яднання" з праваслаўем, палегчыла ўладам рэалізацыю планаў ліквідацыі ўніяцкай царквы. Рэформа сістэмы адукацыі падрыхтавала ніжэйшы клір да злучэння з праваслаўем. Важным элементам у паслабленні ўніяцкай царквы было абмежаванне незалежнасці базыльянскага ордэна і зачыненне базыльянскіх манастыроў. Дапамога ўніяцкага духавенства паўстанцам 1831 г. вызначыла няўсцешны лёс царквы. Яе ліквідацыя пачалася з пераабсталявання храмаў.

У 1834 г. усталяванне праваслаўных іканастасаў прыйшло ва ўніяцкія цэрквы Лідчыны: Голдаўскую, Ракавіцкую, Астрынскую. Арлянскую, Сабакінскую, Ганчарскую і Лябёдскую. Іх прыхо-

ды аказаліся настолькі беднымі, што сяляне былі няздольныя за ўласны кошт запрасіць сталяроў і мастакоў дзеля належнай змены інтэр'еру храма. Радзівонішскую царкву вырашылі наогул знішчыць — была ў вельмі дрэнным стане. Праўда, спачатку размова ішла аб захаванні храма, аднак пазней новаму Лідскаму благачыннаму Самсону Брэну (24 студзеня 1840 г.) дакладзена: "... *сообщено лидскому уездному предводителю дворянства..., чтобы о починке этой церкви не оставил старание, и ... Брену ежемесячно рапортовал"*[172]. 29 студзеня 1840 г. лідскі прадвадзіцель інфармаваў С. Брэна, *"что устройство Радзивонишской церкви поручено г. уездному судье Журавскому"*[173]. Але адрамантаваць царкву так і не змаглі.

Святар і вернікі з вёскі Дакудава аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма, таму, паводле афіцыйнага паведамлення, *"употребляется деятельное настаивание"* аб усталяванні тут іканастаса. 30 снежня 1835 г. гродзенскі губернатар Копцеў загадаў убраць з уніяцкіх цэркваў падведамнай яму тэрыторыі ўсе рэчы, неўласцівыя праваслаўю: арганы, лаўкі, званочкі. На выкананне загаду далі 5 месяцаў. 25 сакавіка 1836 года лідскі земскі спраўнік палкоўнік фон Берг інфармаваў губернатара, што такая работа ў Лідскім павеце ўжо распачата, і абяцаў прасачыць за дакладнасцю выканання загаду. Арганы — яны меліся ў Баброўскай, Голдаўскай, Сабакінскай і Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) цэрквах — падлягалі продажу, а калі не знойдзецца пакупнікоў — разборцы. Арганісты пераводзіліся на іншыя духоўныя пасады[174]. 14 лютага губернскі вайсковы начальнік фон Берг нагадваў лідскаму благачыннаму С. Брэну аб *"неприступлении к устрой-*

[172] Лідскі гісторыка-мастацкі музей (далей — ЛГММ). Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.

[173] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 8 лютага 1840 г.

[174] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 19. Спр. 1004. Л. 3; Спр. 1005.

*ству иконостасов Остринской, Собакинской и Глембокской церквей, ... а ... церкви в Демброве и Дикушках ещё не построены...”*[175].

На працягу 1834–1835 гг. пераўсталёўвалася, згодна з патрабаваннямі Голдаўская царква: быў усталяваны іканастас, разабраны арган, вынесены лаўкі, выдалены званочкі. Не абышлося без абурэння тутэйшых жыхароў. Лідскі земскі спраўнік Вітэнгоф 2 снежня 1834 г. дакладваў гродзенскаму губернатару М. Мураўёву: *“У Голдаўскай царкве так мала бывае людзей з чэрні таго прыхода. Ёсць нагода зазначыць, што ў Баброўскай царкве, якая ў бліжэйшай адлегласці знаходзіцца, яшчэ няма інакастасу, і туды зараз павярнуліся прыхаджане Голдаўскага прыходу”*. Мураўёў з гэтай нагоды распарадзіўся *“старацца ў дакладнасці выканаць ускладзенае на Вас прадпісанне: абсталяваць інакастасы і іншыя духоўныя прынады па грэка–ўсходняму абраду. Дакладваць мне толькі пра поспехі справы”*[176]. Лідскі спраўнік адным з першых у губерні зрабіў справаздачу, што арганы знішчаны, лаўкі вынесены, іншыя неўласцівыя ўсходняму абраду рэчы ліквідаваныя[177].

Старыя ўніяцкія кнігі збіраліся па ўсіх прыходах і паліліся. Мітрапаліт Іосіф Сямашка пісаў у сваіх “Запісках”, што толькі за 3 гады было сабрана і спалена па яго загаду больш за 2000 стадрукаў з друкарань Вялікага княства Літоўскага. Замест мясцовых выданняў з царкоўнаславянскімі тэкстамі беларускай рэдакцыі ў храмы прысылалі выданні маскоўскай сінадальнай друкарні з тэкстамі ў рускай рэдакцыі[178]. Для навучання службе па маскоўскіх кнігах у Жыровіцы па чарзе выклікаліся благачынныя. На працягу года тут прайшлі “испытания и наставления” 120 шэраговых святароў. Галоўным чынам, гэта былі тыя, хто адмовіўся

[175] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 14 лютага 1840 г.

[176] Лідскі летапісец. 1997. № 3. С. 17.

[177] Палуцкая С. В. З гісторыі ўніяцтва на Лідчыне // Наш радавод. Ліда, 1993. С. 66–73.

[178] Гарошка Л. Пад знакам рускае і польскае веры // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 184.

прыняць маскоўскія служэбнікі. Сярод адмаўленцаў былі амаль што усе прыхадскія святары Лідчыны[179]. 29 ліпеня 1835 г. Сямашка зняў з пасады лідскага благачыннага, святара Яна Гарбацэвіча за адмову служыць па маскоўскіх кнігах большасці святароў Лідчыны ("паслухмяным" аказаўся толькі святар сабакінскай царквы Фармасевіч[180]), за тое, што ён сам па гэтаму "служебнику служить не в состоянии" і за "нелепые толки … и злонамеренность сего духовного". Абвінавачвані ў "нелепых толках" з'явіліся таму, што на пачатку Сямашка і яго аднадумцы дэкларавалі, што імі ўсё робіцца для выгоды кліру і ўмацавання ўніі[181], а святароў, якія разумелі, што справа ідзе да ліквідацыі іх царквы і не маўчалі, абвінавачвалі ў распаўсюдзе чутак.

Замест Яна Гарбацэвіча быў прызначаны Самсон Брэн. Былога ж благачыннага выклікалі у Жыровіцы *"для надлежащего наставления"* і падверглі тыднёвай епітыміі пры кафедральным саборы, а калі *"он и после наставления окажет упорство, то отрешить его немедленно от прихода, воспретить всякое богослужение и самое употребление священнического одеяния, и выслать безотлагательно в Любарский монастырь"*. У Жыровіцы па чарзе выклікалі ўсіх святароў Лідчыны (акрамя Фармасевіча) дзеля *"наставления их здесь в богослужении…"*. Калі хто з *іх "окажет упорство, то … отрешать немедленно от занимаемых ими мест, воспретить всякое священнодействие … и назначить причетниками к церквам, … отдаленным от нынешнего местопребывания"*[182].

---

179 Киприанович г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна. 1893. С. 94.

180 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 186–188.

181 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 61.

182 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 186–188.

Па ўсёй Беларусі вясковых святароў, не схільных кідаць унію, вінавацілі ў “самонадеянности” і “неблагонадежности”. Такіх асоб Сямашка выдаляў з прыходаў, забараняў служыць, пераводзіў у дыяканы або ў панамары (прычэтнікі)[183]. Калі і гэта не дапамагала, іх высылалі ў манастыры, і яны там выконвалі працы нароўні з прыслугай, *“пользуясь одинаковым с нею столом и помещением”*. Трымалі ў манастыры *“впредь до совершенного раскания непокорных и исправления их образа мысли и характера”*. Для пакарання святароў, якія адмовіліся прыняць новыя маскоўскія кнігі, Іосіф Сямашка прапанаваў вікарнаму епіскапу Антонію Зубко пазбаўляць казённага ўтрымання дзяцей гэтых святароў — выхаванцаў семінарый і духоўных вучэльняў[184].

У жніўні 1835 г., па даручэнню Сямашкі, старшыня Літоўскай кансысторыі Тупальскі асабіста правяраў Лідчыну і гутарыў з кожным святаром[185]. І усё ж восем святароў адмовіліся прымаць новыя малітоўнікі. Гэта былі: 1) Мацей Бараноўскі (Баброўская царква), 2) Язэп Кунаховіч (Голдаўская царква), 3) Антоні Грушэўскі (Ятвеская царква), 4) Ян Радкевіч (Лябёдская царква), 5) Рафаіл Журомскі (Астрынская царква), 6) Язафат Александровіч (Дакудаўская царква), 7) Ян Касцецкі (Ганчарская царква) і 8) Мікалай Будзіловіч (Жыжмянская царква). Нават пасля таго, як кансісторыя вырашыла *“всех означенных восемь священников отрешить навсегда от занимаемых ими ныне приходов, ... воспретить всякое священнодействие и употребление священнического одеяния ..., определить их дьячками к церквам, не имеющих таковых и отдаленных от настоящего их местожительства, ... прежде отправления их к дьячковским местам приготовить их*

183 Панамар (прычэтнік) — служка ў царкве, абавязаны званіць у званы, спяваць на клірасе і прыслугоўваць пры набажэнстве.

184 Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна. 1893. С. 95.

185 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 199–200.

*к сей должности в дьячковском училище…”*[186] цвёрдымі ў сваіх перакананнях засталіся чатыры святары: Мацей Бараноўскі, Язэп Кунаховіч, Рафаіл Жыромскі і Антоні Грушэўскі[187]. Яны і былі высланы *“впредь совершенного их исправления и раскаяния”*. Вядома пра далейшы лёс толькі аднаго з іх: перавод у дыяканы і высылка не выправілі Антонія Грушэўскага, якога з дыяканаў перавялі ў панамары, некалькі разоў перакідвалі ў розныя цэрквы, саслалі напачатку ў Быценьскі манастыр, а потым, у 1841 г., ва *“уединенный Загоровский монастырь под надзор тамошнего игумена”*. Пасля гэтага Сямашка прасіў обер-пракурора Сінода графа Пратасава дать дазвол, разам з іншымі святарамі і манахамі каб Грушэўскага *“переместить в Курскую временную обитель, или же в другие великороссийские монастыри”*[188].

24 студзеня 1840 г. лідскага благачыннага С. Брэна абавязалі аб неабходнасці *“снабжения всех церквей проскомодийными листами согласно обрядов русской церкви”*[189]. 30 чэрвеня 1840 г. у заходнія губерні паведамілі, што *“Святейшый синод поможет … отпустить для воссоединения церквей 1442 экземпляров малого требника …”* [190].

Святароў прымушалі падпісвацца пад паперай з адмовай ад уніі. Аднак 593 святары з Беларусі, не зважаючы на пагрозы, наадрэз адмовіліся даць свой подпіс і згадзіцца са скасаваннем уніі. Многіх з іх, у асноўным бацькоў шматдзетных сем’яў, чый сацыяльны статус не вельмі адрозніваўся ад сялянскага, заключылі ў манастырскія турмы, часткова ў манастыры Беларусі (Быцень,

---

[186] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 222–223.

[187] Тамсама. С. 231.

[188] Тамсама. С. 553–554.

[189] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.

[190] Тамсама. Загад ад 30 чэрвеня 1840 г.

Жыровіцы), часткова Ўкраіны, некаторых выслалі ў глыб Расіі. 1243 святары далі патрабуемую ад іх падпіску[191].

Паводле канфідэнцыйнага загаду обер-пракурора Сінода, у Літоўскай епархіі ўказ пра "воссоединение" забаранялася абнародаваць *"впредь до особого повеления"*. Брэсцкі япіскап Антоні Зубко выклікаў у Жыровіцы благачынных пад выглядам раздачы дапамогі бедным святарам (фактычна, гэта былі ганарары тым, хто згадзіўся кінуць унію), а сам знаёміў іх з фактам "воссоединения". Благачынных абавязвалі паведаміць пра гэта толькі самым "благонадёжным" святарам. Да такіх "добранадзейных" на Лідчыне адносіліся віцэ-благачынны, святар астрынскай царквы Ігнат Гінтаўт і вікарны святар лідскай царквы Клімент Брэн. Экс-уніяцкім святарам некаторы час дазвалялася прытрымлівацца мясцовых звычаяў: насіць неслужбовае адзенне, галіць бараду, спажываць дазволеную падчас посту ежу, захоўваць адрозненні ў малітвах, не парушаючы пры гэтым дагматаў праваслаўя[192].

12 красавіка 1838 г. Сямашка, сярод іншых благачынных, узнагародзіў Брэна скуф'ёй з фармулёўкай: *"назначенные благочинными вместо прежних неблагонадежных, с ревностью и твердостью искоренили оказавшееся было в сих благочиниях сопротивление и доставили уже ... по двадцати одной подписки от подчиненных священников о готовности их присоединиться к Православной Церкви"*[193].

18 студзеня 1840 г. у Літоўскай кансісторыі слухалі ігумена Быценьскага манастыра Лявонція Аколава аб заключаным у тым манастыры "на искуплении" Іосіфе Тымінскім, пакараным за ўпартасць у сваёй адмове мяняць веру. Тымінскага перавялі на

[191] Гарошка Л. Пад знакам рускае і польскае веры // Спадчына. 2000. № 1. С. 169.
[192] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна. 1893. С. 139.
[193] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 2. С. 71.

пасаду дыякана ў Астрынскаю царкву Лідскага павета, а мясцоваму благачыннаму С. Брэну даручылі *“употребить меры по исправлению Иосифа Тыминскога”*[194]. 22 чэрвеня той рапартаваў кансісторыі, што паміж святаром астрынскай царквы Гінтаўтам і дыяканам Тымінскім складзена пагадненне: Гінтаўт абавязаўся яму *“давать одежду и пропитание, а также обыкновенный дьячковый от прихода доход, которого может иметь до 12 руб. серебром, на что дьячок Тыминский согласился”*[195]. У ліставанні С. Брэна ёсць інфармацыя з Літоўскай кансісторыі ад ковенскага благачыннага Фурасевіча *“о побеге … в Австрийскую Галицию священника Тупайской церкви Иоанна Балинского”*[196]. Такая тэндэнцыя — ўцёкаў уніяцкіх святароў, якія не жадалі кінуць сваю веру, у Галіцыю, дзе аўстрыйскі ўрад не чапаў унію, назіралася ў Беларусі на мяжы 1830–1840- х гг. Шмат уніятаў, каб ухіліцца ад пераводу ў навязваемую ім веру, прымалі рыма-каталіцызм. 14 лістапада 1839 г. С. Брэн звярнуўся з запытам да гродзенскага губернатара, што рабіць з такімі вернікамі. Адказ быў наступны: да асобага распараджэння літоўскага епіскапа Іосіфа земскім судам і гарадской паліцыі не распачынаць следства па справах аб ухіленні ад пануючай веры, але дзейнічаць разам з праваслаўным духавенствам *“благоразумными мерами посредством приличного внушения”*[197]. Рыма-каталіцкаму духавенству “*...строжайше предписывалось … бывшее греко-униатское духовенство и народ Литовский не называть греко-униатским, но православным…”*[198].

24 студзеня 1840 г. губернскае праўленне даручыла лідскаму гараднічаму, каб ён *“для возвращения учителя лидского городского училища Нестора Осовского из латинства в природное правосла-*

194 ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 26 студзеня 1840 г.

195 Тамсама. Загад ад 10 ліпеня 1840 г.

196 Тамсама. Загад ад 21 лістапада 1840 г.

197 Тамсама. Загад ад 24 студзеня 1840 г.

198 Тамсама. Загад ад 31 студзеня 1840 г.

*вие, поступил сообразно циркулярному предписанию, ... следствие прекратил, ... а действовал приличным внушением”*[199]. У сакавіку 1840 г. Літоўская кансісторыя слухала справаздачу гродзенскага губернскага праўлення аб настаўніку Н.Асоўскім, які пісьмова засведчыў, што *“исповедует природный православный обряд и в Римское исповедание не переходил”*[200].

20 кастрычніка 1839 г. кансісторыя заслухоўвала паведамленне гродзенскага губернскага праўлення аб пастанове Лідскага земскага суда за нумарам 3708, на падставе якога прыхаджанін Баброўскай царквы, селянін з вёскі Хадзюкі Адам Мілька, *“перешедший ... в латинский обряд, в православное исповедание возвращён”*[201]. 10 красавіка 1840 г. кансисторыя канстатавала, што *“крестьянин имения Косовщина Адамовичевский Иван ... в православное исповедание возвращён”*[202]. 28 чэрвеня 1840 г. І. Сямашка *“предложил Консистории ... истребовать дополнительные сведения от благочинных ... именные списки, по годам и по приходам, о ... людях бывшего греко-униатского исповедания, как совращены были в прежние времена в Римский обряд, ... согласно предложения данного Его высокопреосвященством от 8 ноября 1836 г. за № 951 возвратить к природному греко-восточному исповеданию, с наименованием каждого лица, места рождения, времени совращения, а также возвращения к своей вере”*[203].

Стваралі клопатаў мясцовым духоўным і свецкім уладам таксама жонкі ўніяцкіх святароў. Ужо вядомы нам С. Брэн *“более двух лет старался благоразумными методами склонить жену настоятеля Гончарской церкви Терезу из Колендов Костецкую с дочерью Юлией к возвращению в природное православное исповедание, но ... Костецкая столь упряма, что никак римского обряда оста-*

[199] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.
[200] Тамсама. Загад ад 8 сакавіка 1840 г.
[201] Тамсама. Загад ад 17 сакавіка 1840 г.
[202] Тамсама. Загад ад 10 красавіка 1840 г.
[203] Тамсама. Загад ад 1 ліпеня 1840 г.

*вить не может"*. 30 красавіка 1840 г. гэтай справай займалася Літоўская кансісторыя. Гаварылі пра тое, што на падставе *"отношения Слуцкого благочинного Наркевича от 3 декабря 1837 г. ... упомянутая Костецкая должна исповедать православную веру, ибо бабка ея — жена православного (хутчэй за ўсё ўніяцкага — Л. Л.) священника Ярошевича — состояла в том же обряде, и мать тоже"*, але гэта Касцецкая не слухае нават угаворы свайго мужа, святара, аб перамене веры. Разглядалася ў кансісторыі і такая справа: *"Жена лидского священника Волчковича с дочерью и Докудовской церкви священника Сцепуры жена с четырьмя дочерьми по ныне состоят в Римском исповедании"*. Прадпісана даставіць *"метрические выписки о рождении и крещении жен священников: лидской церкви Волчковича, докудовской Сцепуры, Гончарской Костецкой ... для дальнейшего по сему рассмотрения"*. Вырашылі, *"как жены священнические, для хорошего образования и, следовательно, для будущего благополучия своих детей должны исповедать веру своих матерей, тем паче, что они вероисповеданию родителей своих подлежат, то просит г. Виленского Епархиального Епископа Климовича (рыма-каталіцкага — Л. Л.) учинить распоряжение, дабы прописаным женам православных священников и их дочерем под никаким видом духовные требы Римско-Католическим священникам не преподовать"*[204].

Аб справах у мястэчку Свіслач з-пад Гродна С. Брэну паведамілі наступнае: *"Консистория слушала предложения Его преосвященства г. Литовского и Виленского Архиепископа и кавалера Иосифа Семашко от 5 июня за № 830 о ... том, что Его Высокопреосвященство отнёсся, куда следует, насчёт письмоводителя Свислочской гимназии Феликса Ячиновского ... и изволил предложить Консистории .... уволенных из свислочской гимназии сыновей Ромуальда и Станислава Ячиновских востребовать хотя бы через полицию в Жировичи и утвердить в православной ве-*

---

[204] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 26 студзеня 1840 г.

*ре. ... Как о поступлении в свислочскую гимназию и совращении в латинство ... Ячиновских должно быть известно священнику Одринской церкви, при которой они записаны, то потребовать от ... священника и Благочинного объяснений''*[205]. Аднак, не гледзячы на строгія меры, *“генерал 9-го округа (гродзенскага — Л. Л.) внутренней стражи при инспектировании вверенного ему округа, удостоверился, ... что бывшие греко–католики не знают о присоединении их к православию и называют себя по прежнему униатами ...''*[206].

Перапіска С. Брэна напоўнена інфармацыяй аб шлюбах паміж католікамі і праваслаўнымі, якія стваралі ўладам шмат праблем. Рыма-каталіцкае духавенства папярэджвалі, што *“браки русских, совершенные одними римско-католическими священниками, не считаются действительными, пока необвенчаны русскими священниками''*[207].

25 лістапада 1839 г. Літоўская кансісторыя слухала даклад С. Брэна аб тым, што *“священник Собакинской церкви Бедрицкий рапортом от 23 ноября донёс ему, благочинному, што две женщины ... католички ... Тереза Михальковичова, девица ... , и ... Анна Лукашевичева, вдова ..., приняли православие и обвенчались Бедрицким, первая с Семёном Сидляцевичем ... , вторая с Иваном Омелевичем''*. Кансісторыя загадала Брэну *“взять от этих женщин расписки, что они будут исповедать православную веру и детей своих обоего пола в ней же воспитывать''*[208]. 15 студзеня 1840 г. нагадалі *“при браке между православными и иноверцами всякий раз испрашивать архирейского разрешения''*[209].

30 студзеня 1840 г. кансісторыя слухала даклад С. Брэна аб тым, што прыхаджанін Жалудокскага касцёла Якаў Смецюх жадае

205 ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 18 ліпеня 1840 г.

206 Тамсама Загад ад 17 кастрычніка 1840 г.

207 Тамсама. Загад ад 31 студзеня 1840 г.

208 Тамсама. Загад ад 8 лютага 1840 г.

209 Тамсама. Загад ад 15 студеня 1840 г.

ажаніцца з Францішкаю Дарашэўнай, прыхаджанкай Дзікушскай праваслаўнай царквы. Якаў абавязаўся, што *“не будет склонять своей супруги к принятию Римской веры (дал расписку) и детей своих обоего пола будет воспитывать в догматах православного исповедания”*[210]. Аналагічна пастуміў, як вынікае з дакумента ад 16 снежня 1840 г., салдат Брэсцкага пяхотнага палка, прыхаджанін Няцечскага касцёла, адносна яго шлюбу з прыхаджанкай Голдаўскай царквы Аленай Грынявіцкай.

У другой палове 1830-х гг. ішла перадача ўніяцкіх храмаў Лідчыны ў праваслаўнае ведамства, а пасля Полацкага сабора 1839 г. уніяцкая царква Беларусі наогул перастала існаваць. Супрацьстаяць палітыцы царызму і здрадзе вышэйшага духавенства беднае і часта слабаадукаванае ўніяцкае духавенства, забітае прыгонам сялянства, дробная шляхта і гараджане, пры адсутнасці сваёй дзяржавы, не змаглі.

* * *

У 1841 г., пасля пакаяння, ў Астрынскі прыход быў пераведзены магістр багаслоўя, святар з Любчы Адам Плаўскі. У Віленскай Галоўнай семінарыі ён вучыўся разам з галоўным “ліквідатарам” уніі Сямашкам. Сваю першую шасцімесячную епітымію ў Жыровіцкім манастыры ён атрымаў за працідзеянне ўвядзенню служэбнікаў маскоўскага друку на Наваградчыне[211]. Як высокаадукаваны чалавек, ён разумеў, што пераход на маскоўскія богаслужбовыя кнігі — гэта пачатак канца ўніі. Расказваў гэта малаадукаваным святарам і напісаў у духоўную кансісторыю дзве цыдулкі пра новыя служэбнікі. Па патрабаванню Сямашкі Плаўскі быў арыштавана паліцыяй і сасланы ў Магілёўскую

210 ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 16 лютага 1840 г.

211 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 165–167.

епархію ў панамары[212]. Плаўскі быў бацькам васьмі дзетак і не мог пражыць на жабрацкія грошы дзячка, таму, пахаваўшы жонку, ён "раскаяўся"[213]. Быў пераведзены святаром "на бедный приход" у Магілёўскую епархію. Пасля шматлікіх прашэнняў святара перавялі ў "добры" Астрынскі прыход на Лідчыне. Іосіф Сямашка, *"представил его к пособию в 200 рублей как совершенно обедневшего и принужденного воспитывать 8 человек детей, после смерти жены"*. Жыццём сваёй жонкі — маці васьмі дзяцей і галечай заплаціў беларускі святар-інтэлектуал за сваю веру і перакананні. Трактат Плаўскага супраць кніг маскоўскага друку і ліквідацыі ўніі быў выдадзены за мяжой, потым перакладзены на розныя мовы і неаднаразова перавыдаваўся на працягу XIX ст. *"при помощи врагов России"*[214].

Пра апошняга ўніяцкага і першага праваслаўнага благачынныга Лідчыны Самсона Брэна нам вядома наступнае. Протаіерэй Самсон Брэн (1790 г. — 28 чэрвеня 1866 г.) паходзіў з сялян Берасцейскага павета. Адукацыю атрымаў у Берасцейскай гімназіі і 6 ліпеня 1819 г. быў пасвечаны ва ўніяцкія святары. Пачаў служыць у Каменіца-Жыровіцкай царкве Берасцейскага павета і ўжо ў наступным годзе быў прызначаны духоўным дэпутатам ад Берасцейскага павета, пачаў выконваць розныя даручэнні кіраўніцтва

[212] Дело о низведенном в причетники священнике магистре богословия Адаме Плавском. Р., 01.06.1836, д. 3401, 22 л. // Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы да гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе "Канцылярыя мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў у Расіі". Мінск — Полацк, 1999. С. 176

[213] Прошения оршанскому епископу В. Лужинскому о назначении и перемещении по службе, о выдаче метрических выписей, об облегчении наказания священнику Плавскому и др. П. Р., 14.05.1835 — 12.01.1836, д. 1564, 81 л. // Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы да гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе "Канцылярыя мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў у Расіі". Мінск — Полацк, 1999. С. 267.

[214] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 96.

епархіі. У 1835 г. узначаліў "ненадзейную" ўніяцкую царкву на Лідчыне і быў адным з найбольш гарачых прыхільнікаў знішчэння свайго веравызнання. За працу па "воссоединению" быў узнагароджаны Камілаўкай, наперсным Крыжам і Ордэнам Св. Ганны 3-й ступені, а пасля звальнення з пасады (за 4 месяцы да смерці) *"за усердие и деятельность на пользу Православной церкви, особенно во время воссоединения Унии с Православной церковью",* яму была прызначана пажыццёвая пенсія ў 400 рублёў штогод. Пахаваны ў Голдаве, дзе яго сын у той час служыў святаром[215].

31 год Самсон Брэн з'яўляўся лідскім благачынным. Аднак, новая царква ў горадзе так і не была пабудавана. Расійскі афіцэр І. В. Любарскі, які праз два дзесяцігоддзі пасля забароны ўніі, перад паўстаннем 1863 г., служыў у Лідзе, напісаў у сваіх мемуарах: *"Праваслаўная царква ў Лідзе была ў несамавітай, драўлянай, бедна абстаўленай хаце з нізкай столлю. У царкве адначасова магло маліцца не болей за 50 багамольцаў, таму салдаты прыходзілі ў храм Божы па чарзе камандамі. Служыў святар без дыякана, а спявалі на клірасе салдаты, як ім Бог "положил на душу". ... . Адсутнасць панікадзіла ў храме, бляшаныя пагнутыя падсвечнікі, чорныя абразы на сцяне, падрапаныя рызы на святару — усё гэта так не паходзіла на звыклыя ўражанні праваслаўнага чалавека, і мімаволі глыбокая нуда ахоплівала душу"*[216].

Пра сустрэчу з "праваслаўным" святаром вёскі Дакудава: *"З падручніка геаграфіі засталося ў мяне такое ўражанне, што нашы заходнія губерні да самай мяжы царства Польскага — суцэльна рускія ... ... Меў жа я вялікае расчараванне ..., калі ў 1860 г. я апынуўся ў Паўночна-Заходнім краі ... Насельніцтва — і праваслаўнае, і каталіцкае — размаўляе беларускім прыслоўем рускай мовы, але навучаецца польскай грамаце, і ўсякі мужык,*

[215] Литовские епархиальные ведомости № 18. 1866. С. 779–781.
[216] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 824.

*як толькі высунуўся з сялянскага становішча, наровіць размаўляць па-польску і апранае канфедэратку ... .*

*Паўсюль багата ўпрыгожаныя велічнай архітэктуры касцёлы, і рэдка-рэдка трапляліся драўляныя, трухлявыя цэрквы з падпоркамі і латамі, падобныя больш на адрыны, чым на храмы пануючай рэлігіі. Праваслаўнае духавенства знаходзілася ў поўным загоне, яно было прыніжанае сваёю беднатой ... Знаёмячыся з мясцовымі святарамі і імкнучыся ўразумець сабе ўмовы іх побыту, я заўважаў агульную ім усім характэрную рысу нейкай вінаватасці ў тым, што яны існуюць у "чужым краі". ...*

*Трапляліся паміж святарамі і такія ..., якія проста дзівілі сваім цынічным стаўленнем да царквы і рэлігіі. Гэта былі дажываўшыя свой век апошнія магікане ўніі 1839 г. ... Яны ўплывалі вельмі разбэшчана на сваю паству, прыводзячы яе паступова да поўнай рэлігійнай абыякавасці. З адным такім тыповым уніятам ... пад святарскай маскай я выпадкова сустрэўся ў Лідскім павеце Віленскай губерні. Спатрэбілася мне з'ездзіць у роту нашага палка, нядаўна размешчаную ў вялікай праваслаўнай вёсцы Дакудава з прыхадской царквой. Ротны камандзір і абодва субалтэрны*[217] *ў гэтай роце былі палякі*[218]*.*

*Поп тутэйшай парафіі*[219] *(так у тэксце, святар размаўляе пераважна па-беларуску — Л. Л.), — адрэкамендаваўся ён ... падаючы мне руку. Гэта быў сухі маленькі чалавек, рухомы і гаманкі, які захаваў нейкую дзіцячую наіўнасць не гледзячы на свой стары век ..., рускай мовы не ведаў. За то, што я не мог размаўляць з гэтым дзіўным святаром на яго мове, ён адразу, без цырымоніі, абразіў мяне "завзентым маскалём".*

*Вось, пане, абрэвізуйце яго роту памацней, — сказаў святар, паказваючы на капітана, — ды прайміце яго добра за тое, што напужаў мяне, калі прыйшоў сюды з ротай. Уявіце, у нас па вёс-*

[217] Субалтерн — малодшы афіцэр.

[218] Для Любарскага — аўтара гэтых мемуараў усе выхадцы з Беларусі, не гледзячы нават на іх веравызнанне — палякі.

[219] Верагодна — Ян Сцяпура.

*цы пайшоў слых, што ідзе ў Дакудава з ротай архіправаслаўны камандзір. Прыпляліся сюды яны як раз пры канцы тыдня. Я на іншы дзень, досвіткам, давай званіць спачатку ў адзін звон, потым ва ўсё, думаю сабе: каб не прынесла яго нялёгкая ў такую рань, а сам сяджу ў алтары ды выглядваю, таму што боязна было. А калі б прыйшоў, я пачаў бы казаць: Госпадзі памілуй. Мінула гэтак з палову гадзіны, нікога з маскалёў няма. Ну, значыць, спіць пудзіла, задраўшы ногі, і стараннасці маёй не чуе, замкнуў я царкву і пайшоў каву піць. А потым дазнаўся, што ён такой жа "дъябел" як і я.*

*Чаго жа вы, ойча, так баяліся?*

*Як чаго? А калі бы ён і на самай справе аказаўся б "бла-го-на-ме-рен-ный", ды паслаў куды патрэбна цыдулку, што дакудаўскі поп імшу не спраўляе, то ізноў прыйшлося бы ў манастыр ісці на пакуту.*

*Дык чаму ж вы не служыце? — спытаў я, вельмі здзіўлены.*

*Вельмі проста, пане каханы, па вашаму не ўмею, а па нашаму нельга. Вось пахрысціць, павянчаць, пахаваць — гэта я з поўным задавальненнем, інакш папу з дочкамі няма чаго было бы есці. І ў нядзелю царква мая заўсёды адчыненая, прыйдуць, памоляцца, паспяваюць нашы хлопцы, і даволі з іх. Ды вы не думайце, зрэшты, што я такі ўжо адшчапенец, у царскі дзень рэдка калі набажэнства не "адкатаю". Вось толькі з кадзілам не магу зладзіць. Сапраўдны поп спрытна так "фуркает" ім наперад і назад, а ў мяне не выходзіць.*

*Я дзіўлюся, што вам цяжка служыць па-праваслаўнаму, — заўважыў я. Наколькі мне вядома, па ўмовам брэсцкай царкоўнай дамовы, ... ўся абраднасць павінна быць тая жа, што і ў праваслаўных.*

*Калі гэта было! — запярэчыў ён. У той час, калі я стаў уніяцкім святаром, у нас ... былі арганы, ружанцы, гадзінкі, "здровась Марыя", "анёл Панскі", званочкі ... А зараз што: Госпадзі памілуй, ды падай Госпадзі. Адзін раз, усе ж, паплаціўся я за сваё няўменне. Прыязджае неяк праваслаўны біскуп такі важны, увесь*

*у чорным, на галаве каўпак з шлейфам. Адслужы, кажа, а я пагляджу. Я ні жывы, ні мёртвы, пачаў плесці абедню і ўсё пазіраю на страшнага аргуса. Ён як быццам бы і нічога, прымасціўся ў кутку алтара, ды ўсе паклоны робіць. Мая старанная праца, можа і сышла бы, калі б не гэтая фатальная экценія. Тут ужо я зусім заблытаўся і стаў мармытаць імёны, якія толькі прыйшлі ў галаву. Па заканчэнні ўсяго, біскуп праняў мяне да дзясятага поту і, падзякаваўшы, з'ехаў, а потым піша: дакудаўскі "ксёндз ніцма не розуме", паслаць яго ў навуку на два месяца ў кляштар. А якая мне навука? Адлежаўся я тамака, ... а потым такім жа ... прыйшоў у Дакудава, якім і быў.*

*Чаму бы вам, "баценька", не павучыцца служыць, як належыць, — параіў я, — гэта зусім не цяжкая справа. Глядзіце ў трэбнік, і ўсё выйдзе добра.*

*Позна мне вучыцца, ды і няма сэнсу. Бо палякі выхваляюцца што адваюють сабе ўсю Літву. Тады мы ўжо не ва ўнію, а прама ў каталіцтва пойдзем ..."*[220].

Вышэй згадвалася, што дакудаўскія вернікі разам са святаром Язафатам Александровічам *"аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма"*. Пасля адмовы прыняць маскоўскі служэбнік Александровіча замянілі Янам Сцяпурам, жонка якога з чатырма дачкамі нарабіла клопату мясцовым уладам тым, што да ліквідацыі ўніі паспела перайсці у рыма-каталіцтва і не жадала "вярнуцца" ў праваслаўе — веру, у якой заканадаўствам імперыі прадпісвалася быць спаведнікам знішчанай уніі. Ды й сам Ян Сцяпура лічыўся недабранадзейным, таму і яго ў 1839 г. выклікалі ў Жыровіцы[221]. Гэты святар больш за 20 гадоў, аж да паўстання 1863 г., прынцыпова не служыў літургію па маскоўскаму служэбніку — нават "пакута ў манастыры" (верагодна, у манастырскай турме) не змагла

[220] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 813–816.

[221] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 414.

прымусіць яго да гэтага. Зразумела, што такая пазіцыя стала магчымай толькі пры маўклівай згодзе вернікаў і падтрымцы калегаў-святароў. Карэктнай нам уяўляецца здагадка, што і ў суседніх прыходах пазіцыя святароў мала чым адрознівалася ад паводзін Яна Сцяпуры з Дакудава. Новыя царкоўныя ўлады не мелі магчымасці замяніць іх усіх і рабілі выгляд, што ўсё, як мае быць. Гэта шмат што тлумачыць у далейшай беларускай гісторыі. Менавіта пра гэта пісаў "улюбёнец" Мураўёва-вешальніка пад час падаўлення паўстання 1863 г. Пётр Чарэвін[222]: *"Я не згадваю праваслаўнага сялянскага насельніцтва краю, бо ... я нічога не магу сказаць на яго карысць. Гэтае насельніцтва, паводле статыстыкі, вельмі шматлікае. Але, як яно было сапраўдным каталіцкім у часе ўніі, такім і засталося пасля пераходу ў 1839 г. у праваслаўе. Мяркую, што, за выняткам мітрапаліта Іосіфа (Сямашкі — Л. Л.), няшмат людзей сапраўды сталі праваслаўнымі.*

*Святарства, былое ўніяцкае, не выключаючы Васіля[223]; Міхаіла[224], з захапленнем успамінала пра блаславёныя часы ўніі... каталікі ў сваёй душы, святары, ці працавалі ў польскім і лацінскім духу, ці ... не былі ў стане супрацьдзейнічаць ксяндзоўскай прапагандзе ... . Для селяніна адзін толькі касцельны арган гучыць красамоўней за ўсе доказы — довады праваслаўнага святара"*[225].

[222] У час падаўлення паўстання 1863 г. Пётр Чарэвін палкоўнік, потым генерал-лейтэнант, таварыш міністра ўнутраных спраў і шэфа жандараў, набліжаны імператара Аляксандра III.

[223] Лужынскі Васіль (1791–1879), былы полацкі (беларускі) уніяцкі епіскап, у 1841–1866 гг. полацкі. праваслаўны архіепіскап.

[224] Галубовіч Міхаіл (1803–1868), былы ўніяцкі пратаярэй, з 1839 па 1868 гг. — пінскі праваслаўны епіскап.

[225] Чарэвін Пётр. Паўночна — заходні край (Успаміны) // Спадчына № 2 — 1998. С. 72–73.

